ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

1 СНЕЖНЯ 1995 г. № 48 (3820) Кошт 2 500 руб.







Сяргей ПАПАР

## СЛЯДЫ НА СНЕЗЕ

**Зазімак зноў. Я азалеў, як востраў.**
**Пашчакачу шчаку**
**кастрынкай вострай.**

**Зіма не ўсе праточыны злядуе.**
**Намоўлю слова: хай пакалядуе.**

**Намацае дарогу ў расцяробе.**
**На ляды выйдзе ў заінелай робе.**

**Да вушака прытуліцца чужога.**
**Не страшна шчадрацом ісці да Бога.**

**Снег прыкарытны рохкае зацята.**
**Яшчэ адна асвечаная хата;**

**Яшчэ адна, агучаная словам,**
**Якая права мае звацца Домам.**

**Каляных клёнаў не скалелі целы.**
**Цяпер я ўжо не востраў ацалелы.**

**Я — мацярык! З карэньчыка да кроны**
**Сонцаварот з планідай заручоны.**

**На неба глянь: вясна у вочы лезе.**
**І — волі — тут і там сляды на снезе.**

*Фота аўтара*



ЛіМ КОЛА ДЗЁН



**_Пры ўсім багацці выбару розных падзей і падзеек, што адбыліся на мінулым тыдні, альтэрнатывы адной, самай важнай, няма. Безумоўна, жыццё віравала вакол паўторных выбараў, і ўсё, што б ні адбывалася, што б ні гаварылася, атрымлівала неадменную "падсветку": выбары. Сёння можна канстатаваць толькі адно — яны адбыліся. Нягледзячы на адкрыта выказаную непатрэбнасць іх уладам. Праўда, уласна ўладам непатрэбны не першы тур паўторных выбараў, зыход якога няцяжка было прадказаць, а тур другі, які і павінен стаць выніковым. Таму не будзем пакуль рабіць нейкія высновы. Пачакаем._**

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

Інтэрв'ю прэзідэнта Беларусі нямецкай газеце "Handesblatt" выклікала на мінулым тыдні калі не шок у сусветнай супольнасці, дык неадназначную рэакцыю — дакладна. "ЛіМ" пра гэта піша асобна. А тут хацелася б сказаць толькі вось што: публікацыя такіх інтэрв'ю беларускага прэзідэнта, часам, дае больш, чым дзесятак самых смелых артыкулаў В. Цыганкова, А. Фядуты ці... П. Васілеўскага. І ніякія "тлумачэнні" потым У. Замяталіна ці самога прэзідэнта таго, што ён хацеў сказаць на самай справе, і ніякія абвінавачванні журналістаў у тэндэнцыйнасці і несумленнасці дасведчаных чытачоў не пераканаюць. Цытата, спадарове, ёсць цытата. З "песні" слова не выкінеш.

## ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Два апошнія перадвыбарчыя дні беларускія тэлегледачы не маглі глядзець Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне. Афіцыйна было паведамлена, што — з-за прафілактычных работ. Элементарнае ж знаёмства з праграмай перадач у расійскіх газетах паказала, што прычына была, відаць, зусім іншай. У панядзелак, 27 лістапада, у 22.15 увесь былы СССР, акрамя Беларусі, вядома, паглядзеў перадачу "Партрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі вачыма апазіцыі". Усяго 10 хвілін. А пацярпелі з-за гэтага найперш аматары "Мануэлы" ды футбольныя заўзятары, што не змаглі паглядзець "матч года": фінал міжкантынентальнага кубка. Некалі "нацыяналісты" прапаноўвалі прыпыніць трансляцыю расійскіх тэлеканалаў на Беларусь з-за іх шавіністычнасці. Сёння "Расія" можа быць "закрытай" па іншых прычынах. Бо ўладам нашым "не падабаецца" не толькі "Санкт-Пецярбург", але і НТБ...

## ЗАКЛІК ТЫДНЯ

"Прагаласуйце за тых людзей, якіх вы ведаеце", — так сказаў прэзідэнт Беларусі на сустрэчы з журналістамі. Сам жа ён за некалькі дзён да выбараў не ведаў нават, хто балатуецца па ягонай акрузе, бо ніхто не вёў перадвыбарнай агітацыі. У такой сітуацыі, дарэчы, апынулася ці не большасць выбаршчыкаў. Чаму? Хто вінаваты ў гэтым? Пытанні рытарычныя...

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

На мінулым тыдні прэзідэнт Беларусі сустракаўся не толькі з карэспандэнтамі газеты "Handesblatt", не толькі з творчай інтэлігенцыяй, але і з прэсай беларускай. Прычым, што асабліва падкрэслівалася, акрамя журналістаў дзяржаўных выданняў, на яе былі запрошаны і "незалежныя". Незалежныя, але "свае", дададзім, бо карэспандэнтаў "Комсомольской правды", "Известий" у залу не пусцілі. Прэзідэнт, як заўсёды, быў шчырым і шматслоўным. А таму, як заўсёды, слухаючы яго, зноў і зноў прыгадваліся знакамітыя словы Талейрана: "Язык нам дадзены для таго, каб утойваць свае думкі"... І тады не будзе непажаданых цытат у "жоўтай" прэсе, і не трэба будзе У. Замяталіну ў тэрміновым парадку "тушыць пажар" і крывіць душою, абвінавачваючы ў несусветных грахах журналістаў.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"У Беларусі ёсць будучыня, бо тут ёсць людзі, народ. Беларусь чакае доўгі перыяд хаосу, бо яна апынулася на зломе эпох. Мяркую, што яна пачне ўставаць з каленяў праз дваццаць-сорак гадоў, каб выйсці на кантакт з сучасным светам... Галоўнае — дзяржава. Будзе дзяржава, будзе і нацыя, і ўсё астатняе, бо не нацыі ствараюць дзяржавы. Перш узнікае дзяржава, якая потым фармуе народ".

*(З інтэрв'ю з беларускім пісьменнікам, які жыве ў Польшчы, Сакратам ЯНОВІЧАМ. "Свабода", 27 лістапада г.г.)*

## ЗДЗЕК ТЫДНЯ

Газеты паведамляюць пра тое, што, <u>магчыма</u>, з 1 студзеня будзе павышаны мінімальны заробак да 100 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду да 120 тысяч рублёў. Бюджэтнікі, якія сёння ўмеюць лічыць рублі, не могуць нарадавацца гэтаму паведамленню, бо на справе гэта азначае элементарнае павышэнне цэнаў: адначасна павысяцца ўсе выплаты, якія "прывязаны" да мінімальнага заробку. Павысяцца — амаль удвая, у той час як сам заробак — на 20 працэнтаў. І смех, і грэх... Ці варта было дзеля гэтага прадстаўнікам Кабінета Міністраў, аб'яднанняў наймальнікаў і прафсаюзаў праводзіць ажно тры раунды ўзгадняльных перамоў?.. Няшчасныя бюджэтнікі, няшчасная дзяржава...

## НЕДАРЭЧНАСЦЬ ТЫДНЯ

Напачатку адна цытата на мове арыгінала з газеты "Имя" за 29 лістапада г.г.: "Белорус взял Бастилию" — именно таким заголовком, вынесенным в начало этого материала, разразилась парижская газета "Krous" после месяца пребывания во Франции главного дирижера белорусской оперы Александра Анисимова. На этот раз "пали бастионы" французской национальной оперы — театра "Бастилия". Вместе с "Евгением Онегиным", впервые ступившим на эту сцену, маэстро оказался единственным русским в многочисленной команде приглашенных для участия в спектакле иностранных музыкантов". Вось тут, прабачце, цытаванне перапынім. Вы зразумелі, як гэта беларус мог аказацца адзіным рускім?.. Загадзя просім прабачэння ў сп. Анісімава, бо справа тут не ў канкрэтным выпадку, а ў тэндэнцыі, у з'яве. Свет паступова пачынае ўспрымаць грамадзян Рэспублікі Беларусь, як грамадзян Рэспублікі Беларусь. Мы ж працягваем жыць "савецкімі" крытэрыямі, калі зборная СССР па футболе, якая складалася з пяці ўкраінцаў, двух беларусаў, двух грузін, татарына ды малдаваніна, называецца нават не савецкай, а рускай... Прыкра сёння ў нашым друку знаходзіць падобныя працытаванай "недакладнасці" ці, усё ж, недарэчнасці. Давайце будзем больш уважлівымі да саміх сябе. Досыць "самоуничижения"... Аднак гэта, пэўна, тэма асобнага артыкула: чаму і сёння словазлучэнне тыпу "беларус Барыс Гельфанд" выклікае ўсмешку, а "рускі Гары Каспараў" ці "рускі Кірсан Ілюмжынаў" — не...

Сустрэчы

# "ПАЭТАМ МОЖАШ ТЫ НЕ БЫЦЬ..."



У мінулую пятніцу прэзідэнт Беларусі сустрэўся з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі краіны...

На жаль, "ЛіМ" не можа больш нічога дадаць у якасці подпісу да гэтых здымкаў БЕЛТА, бо журналістаў адзінай на Беларусі газеты творчай інтэлігенцыі на сустрэчу не запрасілі... І справа тут не ў нейкай уяўнай "апазіцыйнасці" нашага тыднёвіка, а ў агульнай тэндэнцыі, якая бачыцца ўжо з простага азнаямлення са складам тых, хто быў запрошаны на сустрэчу. З народных пісьменнікаў Беларусі прысутнічалі толькі Іван Чыгрынаў і Іван Навуменка. Не былі запрошаны на сустрэчу з прэзідэнтам, альбо не пайшлі на яе прынцыпова Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч... Не было відаць і Івана Шамякіна. Дарэчы, Іван Пятровіч Шамякін двойчы звяртаўся непасрэдна да прэзідэнта з адкрытымі лістамі, у якіх выказваў сваю заклапочанасць сённяшнім станам культуры, але так і не атрымаў ніякага адказу...

Не былі запрошаны на сустрэчу і галоўныя рэдактары асноўных літаратурна-мастацкіх, тэатральных, гістарычных часопісаў. Яшчэ адзін штрых: пісьменнікаў на сустрэчы, акрамя старшыні саюза Васіля Зуёнка, прадстаўлялі Эдуард Скобелеў і Генадзь Пашкоў...

Мяркуючы па паведамленнях друку, на сустрэчы, з лёгкай рукі прэзідэнта, адбылося і вылучэнне прэтэндэнтаў на "вакантную" ўжо больш за год пасаду міністра культуры: кожны ўдзельнік напісаў свайго "кандыдата" на асобнай паперцы. Вынікі "плебісцыту" падвядзе прэзідэнт.

Адгалоскі

# ГЕРАСТРАТАВА СЛАВА?

У афіцыйных і не афіцыйных нашых візіцёраў у краіны далёкага замежжа стала ўжо ці не традыцыяй бедаваць, што пра Беларусь там ведаюць да крыўднага мала, і ў многіх людзей яна асацыіруецца проста з Расіяй. Апошнім часам, мяркую, у справе гэтай адбыліся істотныя змены. Беларусь сёння набыла ў свеце шырокую вядомасць. На вялікі жаль, часам не лепшага кшталту, а то і скандальную. І вінаватых далёка шукаць не даводзіцца — самі стараемся.

Апошні прыклад — інтэрв'ю прэзідэнта А. Лукашэнкі нямецкай газеце "Хандэльсблат" (яно трансліравалася па Беларускім радыё), у якім Аляксандр Рыгоравіч раптам згадаў... нацысцкага фюрэра Адольфа Гітлера. Ды як згадаў...

Шырока вядомая ахвота А. Лукашэнкі да публічных выступленняў, дзе ён аднолькава ўпэўнена трымае сябе перад любой аўдыторыяй — ці перад ім аграрыі, ці пісьменнікі з музыкантамі. Ды толькі шкада, што забываецца часам на прымаўку: "Слова не верабей — вылецела, не зловіш". "Вылеты", як ні прыкра, надараюцца.

Звычайна пасля такіх "вылетаў" адразу прыводзіцца ў дзеянне ідэалагічная служба прэзідэнта, якая ў самых рашучых выразах пнецца даказаць, што А. Лукашэнку не так зразумелі, не так інтэрпрэтавалі, наўмысна сказілі і да т. п.

Так адбылося і цяпер, пасля згаданага вышэй афронту прэзідэнта Беларусі, які ўзняў вялікую хвалю пратэсту сярод айчыннай і сусветнай грамадскасці. Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта на чале з У.Замяталіным адразу распаўсюдзіла заяву, у якой рэакцыя на "откровения" Аляксандра Рыгоравіча тлумачыцца падкопамі антыпрэзідэнцкіх сіл, якім за гэта "добра заплацілі".

У сувязі з заявай службы У.Замяталіна прывяду досыць пікантны факт. У адным з раёнаў Мінска днямі міліцыяй быў затрыманы малады чалавек, які распаўсюджваў на вуліцы ксеракопіі інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча. "Зламысніка" забралі ў міліцыю, дзе ксеракопіі "канфіскавалі", праўда, самога "злачынцу" ўсё-такі адпусцілі...

Застаецца зараз толькі здагадвацца, колькі долараў "адхапілі" шырокавядомыя ў свеце рускі пісьменнік Рыгор Бакланаў, беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, нямецкія, амерыканскія, польскія грамадскія дзеячы, публіцысты, палітолагі, што ўзнялі свой голас пратэсту супраць гэтакіх выказванняў прэзідэнта Беларусі.

Зрэшты, гаворка ідзе не пра нейкае слова, што выпадкова вылецела з вуснаў прэзідэнта. Вось некалькі вытрымак са згаданага інтэрв'ю (узяты толькі адказы А.Лукашэнкі): "І не толькі благое звязана ў Германіі з вядомым Адольфам Гітлерам". "Але ўспомніце яго ўладу ў Германіі... Нямецкі парадак фарміраваўся стагоддзямі. Пры Гітлеру гэтае фарміраванне дасягнула вышэйшай адзнакі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта". "Не, я падкрэсліваю, што не можа быць у якім-небудзь працэсе ці ў якім-небудзь чалавеку ўсё чорнае або ўсё белае. Ёсць і станоўчае. Гітлер сфарміраваў магутную Германію дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе. Гэта былі 30-ыя гады, перыяд моцнага крызісу ў Еўропе, а Германія паднялася дзякуючы моцнай уладзе, дзякуючы таму, што ўся нацыя магла кансалідавацца і аб'ядначца вакол лідэра".

Годзе? Сапраўды, хопіць і гэтага...

Многія замежныя наглядальнікі адзначаюць пры гэтым здзіўляючую недасведчанасць у пытаннях даваеннай гісторыі той жа Германіі, Адольф Гітлер ніколі не быў прэзідэнтам Германіі, ён быў канцлерам. Прэзідэнтам у час прыходу яго да ўлады (і паспрыяўшы гэтаму) быў састарэлы фельдмаршал Гіндэнбург.

Але справа не ў гэтай "дробязнай" памылцы. Справа ж ідзе пра такую пачварную з'яву, як гітлерызм, нацыянал-сацыялізм, што прывялі да жудаснай катастрофы нямецкі народ, Германію, не кажучы ўжо пра дзесяткі мільёнаў ахвяр, развязанай гітлераўскім фашызмам другой сусветнай вайны.

Менш за ўсё ў гэтай нататцы мне б хацелася займацца "политграмотой". Ды яшчэ па пытаннях, якія сёння, здаецца, зразумелы кожнаму школьніку. Але ж мы маем справу са здарэннем неардынарным, здарэннем, якое ў год паўвекавога юбілею Перамогі над гітлераўскай Германіяй на карту паставіла міжнародны аўтарытэт Беларусі.

У сувязі з усім сказаным, згадваюцца падзеі не такога ўжо далёкага мінулага. Май гэтага года. Перад маючымі адбыцца выбарамі і рэферэндумам ідэалагічнымі службамі прэзідэнта было зроблена ўсё, каб скампраметаваць апазіцыю БНФ, прыпісваючы ёй апалагетыку гітлераўскага "новага парадку". Згадаем толькі фільм-фальшыўку "Нянавісць: дзеці хлусні" Ю. Азаронка, некаторыя перадачы радыё і тэлеперадачы.

Тады антыбэнэзфаўская кампанія, праведзеная менавіта ў антыфашысцкім ключы, пэўным чынам паўплывала на вынікі выбараў у Вярхоўны Савет, у які не было абрана ніводнага прадстаўніка апазіцыі. Ці не галоўную ролю ў гэтым адыграла пазіцыя выбаршчыкаў — ветэранаў вайны, у большасці з якіх, дзякуючы настойлівай, мэтанакіраванай прапагандзе, члены БНФ асацыіраваліся з нямецкімі фашыстамі.

Цікава: як паставяцца ветэраны (а яны ж складаюць значную частку электарата А. Лукашэнкі) да яго выказванняў пра вылюдка Гітлера?

Адным словам, слава, што спадарожнічае першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, пачынае нечым нагадваць Герастратаву славу...

**Міхась ЗАМСКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## “БЕЛАРУС” ПРА БЕЛАРУСЬ І НЕ ТОЛЬКІ

**З дапамогай незалежнай выдавецкай кампаніі “Тэхналогія” чытачы на Беларусі змогуць пазнаёміцца з чарговым, жнівеньскім нумарам газеты “Беларус”, што выходзіць у ЗША. Адкрываецца ён артыкулам Янкі Запрудніка “Замежная палітыка РБ і беларускае замежжа”, напісаным па слядах “праграмнага” выступлення А. Лукашэнкі на пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў Беларусі. “Грамадзянам заходніх дзяржаў, якія сочаць за паведамленнямі сродкаў масавай інфармацыі пра падзеі на Беларусі, сорамна і трывожна за гэтую краіну, за эканамічнае бязладдзе, аўтарытарызм і ваеншчыну, грубую непашану з боку афіцыйных уладаў да народнае культуры, нацыянальнае гісторыі, прынцыпаў дэмакратыі і дзяржаўнае незалежнасці”, — сцвярджаецца ў артыкуле. А таму ні на якое супрацоўніцтва з рэжымам Лукашэнкі, на што і спадзяецца ў сваім выступленні сп. прэзідэнт, беларуская эміграцыя не пойдзе.**

**Газета інфармуе таксама пра публікацыю ва ўплывовым амерыканскім часопісе “The Catholic Worbd Report” артыкула Веры Рыч пад загалоўкам “Назад у імперыю зла”, дзякуючы якому англамоўны чытач можа пазнаёміцца з тым, што дзеецца сёння на Беларусі. А якраз з публікацый “Беларуса” відаць, што аўтары яго добра ведаюць пра тое, што адбываецца на Бацькаўшчыне і падаюць да тых падзей грунтоўныя і аб’ектыўныя каментарыі. Чытачам на Беларусі будзе цікава пазнаёміцца з аглядам публікацый пра Беларусь у амерыканскім друку, а таксама з інфармацыяй пра тое, як жыве цяпер беларуская эміграцыя не толькі ў ЗША, але і ў Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі...**

**Дарэчы, ужо з гэтага снежня чытачы змогуць атрымліваць “Беларус” па пошце. Дзеля таго, каб аформіць падпіску, трэба даслаць пісьмовую замову і пралічыць 25 тысяч рублёў (кошт падпіскі) на адрас: 220131, Мінск, вул. Шырокая, д. 40, кв. 150, Баранавай Наталлі Анатольеўне. Чытайце праБеларусь у “Беларусе”!**

## КОНКУРС ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

**Польскае радыё для замежжа на працягу месяца (з 1 па 31 снежня г. г.) праводзіць конкурс для слухачоў сваіх радыёперадач на беларускай, літоўскай, расійскай, украінскай і чэшскай мовах. У лістах высланых на конкурс павінна быць наступная інфармацыя: дата і час, у які вы слухалі радыёперадачу, хваля, на якой ішла перадача, ацэнка яе чутнасці, а таксама кароткія заўвагі пра змест перадачы. Лісты на конкурс будуць прымацца да паловы студзеня 1996 года. На канверце абавязкова трэба зрабіць пазнаку “Конкурс”. Сярод тых, хто ў снежні будзе слухаць перадачы польскага радыё для замежжа, будуць размеркаваны прызы: два радыёпрыёмнікі і іншыя каштоўныя рэчы.**

**Перадачы беларускай рэдакцыі польскага радыё можна слухаць штодзённа а 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 50,04 м (адпаведныя частоты 7285 і 5995 кГц), а 16.30 на кароткіх хвалях 41,27 м і 49,22 м (а. ч. 7270 і 6095 кГц), а 18.30 на кароткіх хвалях 41,27 м (а. ч. 60,95 кГц).**

**Адрас рэдакцыі: Беларуская рэдакцыя польскага радыё, 00-977, Варшава, паштовая скрынка 46, Польшча.**

## ДЗЕНЬ ПРАФІЛАКТЫКІ СНІДУ

**1 снежня штогод ва ўсім свеце пад эгідай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя адзначаецца Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу. Сёлета Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу сумесна з Міністэрствам культуры праводзіць у Мінску дабрачынную акцыю “Дзеячы культуры, мастацтва і творчая моладзь супраць СНІДу”. Мерапрыемства адбудзецца сёння ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі. У ім прымуць удзел вядомыя артысты беларускай эстрады і танцавальныя калектывы.**

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ*

# ДА ЯКІХ КАШТОЎНАСЦЕЙ ВЯРТАЕМСЯ?

### ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ ГІСТОРЫІ І СУЧАСНАЯ ПРЭСА

Словам “дэмакратыя” карысталіся ўлады СССР, карыстаюцца і ўлады цяперашніх посткамуністычных рэспублік, у тым ліку і Беларусі, якія не з’яўляюцца дэмакратычнымі, бо па-ранейшаму ўся ўлада знаходзіцца ў руках вузкай эліты ўсё той жа партыйна-савецкай наменклатуры.

Па-ранейшаму дзяржава, перш за ўсё на Беларусі, кіруе культурным жыццём і кантралюе ўсе праявы. У дэмакратычным грамадстве ўлады не ўстанаўліваюць цэнзуры друку; яны не могуць назначаць або адклікаць рэдактараў газет, забараняць друкаванне артыкулаў і іншых матэрыялаў. У дэмакратычных дзяржавах свабодны друк з’яўляецца дзейсным сродкам кантролю дзейнасці дзяржаўных устаноў і чыноўнікаў.

На Беларусі за апошні год, наадварот, узмацніўся кантроль прэзідэнцкай улады за дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі, зменены ўказамі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі галоўныя рэдактары ўсіх буйных афіцыйных газет і прызначаны новыя, цалкам яму падпарадкаваныя. Адміністрацыі прэзідэнта належаць, паводле яго распараджэння, на правах уласнасці друкарні, радыё і тэлебачанне, дзе ўстаноўлена жорсткая цэнзура. Засталося толькі некалькі незалежных газет.

Моцны націск з боку дзяржаўнай улады на прэсу ў Беларусі рэзка абмяжоўвае свабоду друку, свабоду слова і свабоду думкі. Кантралюючы сродкі масавай інфармацыі, прэзідэнт і яго адміністрацыя праз галоўнае ўпраўленне палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта праводзяць кампаніі па дыскрэдытацыі палітычнай апазіцыі, палітычных партый і рухаў, сваіх былых, цяперашніх і магчымых апанентаў.

Замяніўшы былую камуністычную дактрыну пралетарскага інтэрнацыяналізму, якая фактычна выкарыстоўвалася камуністычнымі ўладамі ў мэтах разбурэння і ліквідацыі беларускай нацыі, ліквідацыі беларускай мовы і нацыянальнай культуры, растварэння беларусаў у агульнай расійскай імперыі пад назвай Савецкі Саюз, новай (а фактычна старой і добра вядомай з часоў рускага царызму) ідэяй панславізму з тымі ж антынацыянальнымі, антыбеларускімі мэтамі, дзяржаўнае кіраўніцтва Беларусі праводзіць курс на ліквідацыю дзяржаўнасці Беларусі на карысць Расіі, беларускай мовы — на карысць рускай, пазбаўлення беларусаў гістарычнай свядомасці, сваёй канцэпцыі нацыянальнай культуры.

На ліквідацыю дзяржаўнасці і страту незалежнасці Беларусі былі накіраваныя захады прэзідэнцкай улады па правядзенні рэферэндуму і парламенцкіх выбараў у траўні 1995 года, праведзеных у антыдэмакратычных умовах, з забаронай апазіцыі выступаць у сродках масавай інфармацыі і іншымі абмежаваннямі, якія фактычна ўстанавілі на Беларусі аўтарытарны рэжым прэзідэнта. Дзякуючы неканстытуцыйным і незаконным метадам правядзення рэферэндуму і выбараў, а таксама маніпуляцыі сродкамі масавай інфармацыі, мэта ўлады была дасягнута. Большасць тых выбаршчыкаў, што прыйшлі на выбарчыя ўчасткі, прагаласавала супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, супраць беларускай нацыянальнай сімволікі і за вяртанне савецкай сімволікі, за эканамічную інтэграцыю з Расіяй і за ўмацаванне і так ужо вялікай улады прэзідэнта, даючы яму права распускаць парламент.

Наступным крокам прэзідэнта сталася забарона падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах, перш за ўсё па гісторыі, напісаных і выдадзеных у 1992—1995 гадах, і вяртанне да падручнікаў савецкага часу, пра што было абвешчана 16 жніўня 1995 года.

Адным гэтым распараджэннем прэзідэнта, што з’яўляецца працягам яго агульнай панславянскай палітыкі, цалкам змяняецца нацыянальная канцэпцыя адукацыі ў школе і вышэйшых навучальных установах. Практычна вучні і студэнты засталіся без падручнікаў па гісторыі, мове, літаратуры і іншых гуманітарных дысцыплінах. Зроблены сапраўдны замах на будучыню беларускай нацыі, спроба змяніць фармаванне светапогляду асобы.

Школьная сістэма вымушана вяртацца назад у камуністычнае мінулае, настальгію па якім зведвае прэзідэнт Беларусі. Вучні і студэнты вымушаны па распараджэнні прэзідэнта вярнуцца назад, да расійска-вялікадзяржаўніцкай канцэпцыі гісторыі Беларусі (у складзе Расіі). Узнаўляецца мадэрнізаваная ў 30-ых і пазнейшых гадах расійска-імперская канцэпцыя гісторыі, якая адпавядала ідэалагічным устаноўкам КПСС на зліццё моў, культуры і народаў у адзіны савецкі народ, рускамоўны і выхаваны ў камуністычна-імперскім духу.

Падручнікі, выдадзеныя да 1990—1991 навучальнага года, амаль цалкам адкідалі не толькі нацыянальную гісторыю Беларусі і яе нацыянальных герояў. Яны ўслаўлялі тых “герояў”, якія ў свой час выступалі супраць незалежнасці Беларусі, былі праваднікамі расійскай імперскай палітыкі. Цяпер узнаўляецца фальсіфікацыя гісторыі Беларусі, антынацыянальная канцэпцыя айчыннай гісторыі з яе паказам беларускага народа як непаўнацэннага, няздольнага да самастойнасці, спрадвечна арыентаванага на расійскіх цароў і імператараў, народа, які не можа быць гаспадаром у сваёй краіне і які быццам бы не меў сваёй дзяржавы да 1 студзеня 1919 г., гэта значыць — да стварэння марыянетачнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая так лёгка ўзнікла на з’ездзе партыі камуністаў Беларусі і так лёгка знікла на пасяджэнні ЦВК дзвюх марыянетачных савецкіх рэспублік — Літвы і Беларусі — праз два месяцы.

Згодна з распараджэннем прэзідэнта, вяртаюцца падручнікі гісторыі і іншых дысцыплін, якія павінны пацвердзіць слушнасць палітыкі прэзідэнта, яго Адміністрацыі і ўрада. Ім трэба даказаць, што беларускі народ без далучэння да Расіі не зможа выжыць. Гэтая палітыка інтэграцыі з Расіяй упарта праводзіцца, нягледзячы на тое, што ўрад Расіі хоць і хоча выкарыстаць народ Беларусі і яе тэрыторыю ў сваіх стратэгічных палітычных мэтах, але не жадае ўзяць на сваё ўтрыманне Беларусь і яе чыноўніцкую верхавіну, бо і без іх у Расіі хапае сваіх праблем, эканамічных і палітычных. Тым не менш кіраўніцтва Беларусі ўпарта праводзіць гэтую сваю палітыку, а вяртанне да старых падручнікаў з’яўляецца ідэалагічным абгрунтаваннем гэтай палітыкі.

У дэмакратычных краінах школа адыгрывае важную ролю ў грамадскім выхаванні свабоднага чалавека. Найважнейшым у грамадзянскім выхаванні з’яўляецца для вучняў пазнанне ўласнай сістэмы ўлады, разуменне, як функцыяніруе ўрад, як грамадзяне могуць шляхам вольных ад усялякага націску з боку ўлады выбараў уплываць на дзейнасць урада і мясцовых органаў самакіравання. Школа ў дэмакратычных краінах дае вучням поўныя веды пра іх правы і абавязкі як грамадзян сваёй краіны.

Не менш важным для пазнання вучнямі асноў дэмакратыі і свабоды з’яўляецца вывучэнне гісторыі сваёй айчыны. Вучні павінны ведаць, што патрыёты, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, не спынялі сваёй барацьбы за незалежнасць і дэмакратыю. Вучні таксама павінны ведаць, якім чынам усталяваўся ў краіне таталітарны рэжым і што адбываецца, калі палітычная або эканамічная ўлада канцэнтруецца ў руках нешматлікіх асоб. Усе гэтыя ўмовы цалкам упісваюцца ў нацыянальную канцэпцыю айчыннай і замежнай гісторыі.

Такім чынам, вяртанне да старых савецкіх падручнікаў з іх ідэалагічнай камуністычнай індактрынацыяй узнаўляе заганную практыку гістарычнага бяспамяцтва, нацыянальнага нігілізму і адмаўлення ад агульначалавечай і хрысціянскай маралі. Прэзідэнцкая ўлада не толькі робіць спробу павярнуць гісторыю назад, але і стварыць паслухмяных уладзе грамадзян з цяперашніх дзяцей і моладзі.

Паколькі старых падручнікаў засталося мала, бо прайшло ўжо пяць гадоў ад часу іх выпуску, а новыя, у прэзідэнцкім духу, наўрад ці будуць напісаны хутка або кар’ерыстамі, або паслухмянымі пярэваратнямі, то практычна роля ў новай фальсіфікацыі гісторыі паводле старога бальшавіцка-імперскага прарасійскага ўзору адводзіцца афіцыйнай прэсе, цалкам падкантрольнай прэзідэнту і яго Адміністрацыі.

Дарэчы, такая практыка ўжо існуе і добра апрабавана як папярэднім рэжымам прэм’ера В. Кебіча, так і цяперашнім — прэзідэнта А. Лукашэнкі. Да выдатных дат з гісторыі Беларусі прэзідэнцкая прэса рыхтуе свае “выкрывальніцкія” артыкулы або змяшчае лісты чытачоў, якія часта дрэнна ведаюць гісторыю, але добра ведаюць, якой яна павінна была быць.

Цяпер адкрываецца магчымасць шырока публікаваць у прэсе тэмы школьных урокаў і тэксты да іх, зыходзячы з ідэалагічных заданняў Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай Адміністрацыі. Ужо паведамлялася ў друку, што пры Міністэрстве адукацыі і навукі будзе створана метадычная камісія, якая будзе на працягу ўсяго навучальнага года праз “Настаўніцкую газету” даваць адпаведныя рэкамендацыі. Гэтай газеце адводзіцца роля “галоўнага падручніка” ў краіне. Галоўнае Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта ў хуткім часе збірае пашыраную агульна-рэспубліканскую нараду прадстаўнікоў сферы адукацыі па пытаннях рэформы, каб атрымаць “шырокую падтрымку працоўных” гэтаму кроку прэзідэнта краіны па ліквідацыі нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Можна не сумнявацца, што ўдзельнікі нарады пад апладысменты прымуць усё, што ім будзе прапанавана ўладнымі структурамі. А потым гэта будзе выдадзена за ўсенароднае адабрэнне.

Да якіх жа “каштоўнасцей” вяртаецца фальсіфікаваная гістарычная навука і яе выкладанне ў школе і вышэйшых навучальных установах? Ад якіх дасягненняў адмаўляецца прэзідэнт і яго ўладныя структуры?

Новы (і адначасова стары) падыход да гісторыі і іншых гуманітарных дысцыплін азначае поўнае адмаўленне не толькі ад нацыянальнай па духу канцэпцыі гісторыі Беларусі як суверэннай дзяржавы. Распараджэнне прэзідэнта аб забароне падручнікаў перакрэслівае ўсе навуковыя дасягненні беларускіх, расійскіх і іншых замежных навукоўцаў апошняга часу, вынікі навуковых даследаванняў, апублікаваных у манаграфіях, артыкулах і ў дакладах на навуковых канферэнцыях, сімпозіумах і на XI міжнародным кангрэсе славістаў у Браціславе, двух літаратурных кангрэсах беларусаў. Аўтары падручнікаў выкарысталі менавіта навуковыя вынікі шматлікіх беларускіх і замежных вучоных. Цяпер усе гэтыя навуковыя дасягненні таксама перакрэсліваюцца. Як тут не згадаць вялікага рускага пісьменніка і рэвалюцыйнага дэмакрата Міхаіла Еўграфавіча Салтыкова-Шчадрына і яго неўміручы твор “Гісторыя аднаго горада”? Адзін з градаНачальнікаў таксама загадаў закрыць усе навукі.

Вяртанне да старых падручнікаў адмаўляе існаванне самастойнай беларускай дзяржавы на працягу соцень гадоў — ад Полацкага княства і Вялікага княства Літоўскага і Рускага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы), пра што, дарэчы, запісана ў прэамбуле Канстытуцыі Беларусі 1994 года. Адмаўляе і паэтапны разгляд нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларусаў, пачынаючы ад паўстання 1794 года.

Вяртанне да старых падручнікаў адмаўляе і гераічную вайсковую гісторыю беларусаў — ад бітваў пад Грунвальдам і Оршай да апошніх стагоддзяў.

Мы атрымліваем старую не толькі камуністычна-імперскую гісторыю Беларусі, але і маскоўска-цэнтрысцкую (Масквы як цэнтра славян), ці паводле верша Сяргея Міхалкова:

**Всем известно, что Земля
Начинается с Кремля.**

Гэта значыць, што гісторыя Беларусі зноў будзе разглядацца скрозь прызму гісторыі Расіі, а Беларусь — як правінцыя Расіі. Зноў будуць услаўляцца поспехі камуністычнай партыі ў выкананні пяцігадовых планаў з фальсіфікаванымі лічбамі, а гісторыя другой сусветнай вайны будзе пададзена як суцэльныя перамогі без сапраўднага паказу віноўнікаў шматмільённых ахвяр паводле прынцыпу “мы за ценой не постоим”. Зноў будзе прапагандавацца знешняя “міралюбівая” палітыка Савецкага Саюза, ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму і савецкага патрыятызму.

На жаль, у афіцыёзнай прэсе ўсё гэта будзе зноў друкавацца не толькі для школьнікаў і студэнтаў, але і для ўсяго насельніцтва, перш за ўсё для інтэлігенцыі, каб захаваць яе як савецкую, каб яна не ўспрымала нацыянальныя ідэі і каб па-ранейшаму ў сваёй большасці служыла ўладзе і дапамагала ёй праводзіць сваю палітыку.

Аднак спроба спыніць ход гісторыі і павярнуць гісторыю назад не можа скончыцца поспехам. Немагчыма прыпыніць развіццё навукі адміністрацыйнымі ўказамі і распараджэннямі. Раней ці пазней ад гэтай “рэформы” прыйдзецца адмовіцца. Шкада толькі змарнаванага часу, адставання ад еўрапейскай педагагічнай навукі, шкада юнакоў і дзяўчат, над якімі праводзіцца гэты эксперымент.

На жаль, несвабодная прэса будзе ўдзельнічаць у гэтай вартай жалю акцыі і будзе падзяляць віну за гэтыя ганебныя для цывілізаваных краін дзеянні. Але як бы ні фальшавалі гісторыю, усё роўна гістарычная праўда застанецца ў свядомасці людзей. Беларусь не будзе плацдармам для камуністычнага рэваншу.

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе ПЭН-цэнтра*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## "ВЯРТАННЕ-2"

**Намаганнямі Беларускага фонду культуры, Скарынаўскага цэнтра і Нацыянальнай бібліятэкі выдадзены чарговы зборнік "Вяртанне-2". Як адзначыў на прэзентацыі зборніка Іван Чыгрынаў, на сёння адна з першачарговых задач — не столькі вяртанне страчаных культурных каштоўнасцей, колькі іх улік і апісанне. Бо з таго, што ў розныя часы і пры розных абставінах вывозілася за межы Беларусі, многае нам проста невядома.**

**Пакуль што гэтым займаецца адно грамадская камісія пры Фондзе культуры. Ёсць і міжведамаснае адпаведнае ўтварэнне, наконт якога І.Чыгрынаў выказаўся досыць скептычна.**

**На прэзентацыі слова бралі А. Мальдзіс, а таксама намеснік міністра культуры У. Гілеп, старшыня Камітэта па архівах А. Міхальчанка, кандыдат мастацтвазнаўства М. Яніцкая (яна ўкладальніца кнігі) і загадчыца аддзела рэдкай кнігі вышэйзгаданай бібліятэкі Т. Рошчына.**

**Было падкрэслена, што кожны адшуканы дакумент — гэта цаглінкі ў падмурак справы вяртання нашай спадчыны, а працягам яе будзе зборнік "Вяртанне-3", які скора пабачыць свет.**

## ПЛЁННЫ ПАЧАТАК

**Святам беларускасці стала прэзентацыя кнігі лірыкі Ніны Аксёнчык "Споведзь арабіны", якая адбылася ў Мазырскім педінстытуце. Паэтэса працуе ў ім дацэнтам. Вершы яе ў асноўным пра Палессе, чарнобыльскую трагедыю. А яшчэ і пра дзівосную прыгажосць роднага краю.**

**З самабытнай паэзіяй Н. Аксёнчык пазнаёміліся на вечарыне і землякі-палешукі, госці — удзельнікі Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі па філалагічных дысцыплінах. Вершы паэтэсы чыталі студэнты філфака. Адпаведна лірычны фон стваралі на вечары выступленні выкладчыкаў музычнай СШ N 4 пад кіраўніцтвам Э. Зімы, якія выканалі некалькі інструментальных апрацовак народных песень. На вечары прагучалі і песні, напісаныя на словы Н. Аксёнчык Ю. Семянякам, мясцовымі кампазітарамі А. Аўсіюком, В. Гарчанінай.**

**Добра дапасавала да музычна-літаратурнай часткі і выстава карцін Н. Аксёнчык.**

**Лявон ШПІТАЛЬНІК**

## ПЕРАКЛАЎ ПЕРШЫМ...

**Ежы Путрамант, вядомы польскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, у 1935 годзе пераўвасобіў па-польску некалькі вершаў Максіма Танка.**

**Сам Е. Путрамант родам з Мінска. З першымі творамі выступіў у друку яшчэ ў 1932 годзе, а першыя свае кнігі паэзіі "Учора вяртанне" (1935), "Лясная дарога" (1938) напісаў на Лідчыне, дзе ў 1928—1939 гадах жыў на хутары Банева. Дарэчы, гэтаму кутку Беларусі ён прысвяціў і нарыс. Але адбылося гэта значна пазней, калі Е. Путрамант, ужо вядомы пісьменнік, наведаўся ва ўрочышча Банева Лідскага раёна з гэткімі ж вядомымі паэтамі Максімам Танкам і П. Панчанкам.**

**Увогуле, Беларусь жыве шмат у якіх творах Е. Путраманта. Для прыкладу, у рамане "Рэчаіснасць" ён праўдзіва расказваў пра рэвалюцыйную барацьбу у былой Заходняй Беларусі. Беларускія матывы адчувальныя і ў іншых творах Е. Путраманта і, зразумела, у чатырохтомных успамінах "Паўвека". Не прамінуў сказаць Е. Путрамант і пра вучобу ў Лідскай гімназіі, Віленскім універсітэце.**

**Вершы, апавяданні Е. Путраманта на беларускую мову перакладалі Максім Танк, П. Пестрак, П. Стэфановіч. У гэтыя дні споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння выдатнага польскага пісьменніка, сына беларускай зямлі, сябра Беларусі.**

## У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

**8 снежня а 16-ай гадзіне ў сувязі з 85-годдзем з дня нараджэння Аляксандра Міронава збіраюцца прыхільнікі яго таленту.**

**Сумеснае пасяджэнне секцый прозы і крытыкі "Беларускі раман сёння" пачнецца 7 снежня ў 15 гадзін.**

**У гэты ж час, але 21 снежня, адбудзецца пасяджэнне секцыі перакладу.**

**ШЭРАГ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ПАЧНЕЦЦА Ў 18 ГАДЗІН 30 МІНУТ.**

**7 снежня — вечарына "Пад зоркаю "Пагоні". Гаворка пра Адама і Максіма Багдановічаў.**

**14 снежня — "Мне гітара крылом за плячыма..." — вечарына-прэзентацыя кнігі паэта-барда Эдуарда Акуліна "Крыло анёла".**

**21 снежня выступае знакаміты Ален — гран-пры Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Мінск-95".**

**26 снежня — творчая вечарына кампазітара Марыяны Марозавай "Музыка маёй душы".**

Часопісы

# НА КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА...

"Маладосць" паслядоўна, з нумара ў нумар, працягвае адкрываць новых аўтараў. Гэткую ж добрую справу, як вядома, робіць і "Першацвет", але ў гэтага часопіса задачы спецыфічныя. Як правіла, увага звяртаецца на самых-самых маладых. "Маладосць" жа не абыходзіць і тых, хто, як кажуць, узростам хай і не маладзён, аднак літаратарам яго можна назваць маладым, паколькі рэспубліканскаму чытачу не надта шырока вядомы. Да такіх творцаў належыць і паэт І. Пракарына. Нарадзіўся ён у вёсцы Аношкі на Нясвіжчыне, цяпер рэдагуе капыльскую раённую газету "Слава працы". З асобнымі творамі Г. Пракарына выступаў у "Чырвонай змене", "Мінскай праўдзе", публікаваўся і ў "ЛіМе", "Маладосці", і ўсё ж чарговая маладосцеўская падборка куды шырэй прадстаўляе гэтага, несумненна, таленатвітага аўтара.

І. Пракарына прыхільнік паэзіі традыцыйнай, а значыць і зямной. Ён не ганяецца за гучнымі эпітэтамі, нечаканымі параўнаннямі, за вобразнай ускладнёнасцю, што мяжуе часам са звычайным эксперыментатарствам. Манера пісьма І. Пракарыны засяроджаная, нават мясцінамі нейкая сцішана-роздумная, але тое, што ідзе з глыбіні душы, ад сэрца, не можна не хваляваць.

Прынамсі, у гэтым пераконваешся, калі чытаеш верш, і названы традыцыйна — "На пабыўцы". Вяртанне на зямлю маленства, туды, дзе неба выдавала такім высокім, а дрэвы гэткімі вялікімі: "Ты прыехаў дадому, у дзяцінства сваё,// Паглядзеўся ў люстэрка памяці,.. І застыў анямелы: было? не было? — // Поўны смутку шчаслівага радасці". Калі можна так сказаць, твор узмацняе акурат гэтае: "смутак шчаслівы". У ім туга, але ў ім і радасць. А гэтая ж нечаканасць, калі сумяшчаецца, здавалася б, несумяшчальнае, і робіць верш паэзіяй.

Хораша напісаны і верш "Сустрэча":

**Ты выходзіла з верша,**
**Як з чароўных акон,**
**Апантаная лепшым,**
**Сталым сонечным днём.**

Далёка немаладога веку і А. Нафрановіч (пра яго кніжку "Мядзельскі мерыдыян" мне даводзілася пісаць у "ЛіМе" раней). І ў новай падборцы А. Нафрановіча таксама прысутнічае адчуванне памяці аб куце, дзе аўтар нарадзіўся. Але ж пра Нарач так шмат напісана! Тым не менш А. Нафрановіч застаецца шчырым, калі прамаўляе:

**Душу закалыхвае Нарач**
**Лагоднай азёрнаю мовай.**
**І лес, падступіўшы падковай,**
**Сіхілўся над ёю і марыць**
**Аб радасці заўтрашняй, новай.**

А вось Л. Сільнова, не адмаўляючы паэзіі традыцыйнай, смела эксперыментуе. У чым пераконвае і яе новая падборка, у якой аўтарка прадстаўлена як звычайнымі вершамі, так і, па ейным вызначэнні, "рысасловамі". Выбірай, чытач, што табе даспадобы. Што да "рысасловаў", дык яны, як і відаць з назвы, у многім узнікаюць з графічнай выявы, са здатнасці Л. Сільновай праз усе гэтыя "рысы", што складаюцца ў малюнак, увасобіць пэўнае паняцце.

Робіцца гэта па-рознаму. Часам, як на першы погляд, вельмі проста. Скажам, паняцце "воля" паэтэса перадае як чысты квадрат, а ўверсе адпаведны надпіс. Проста?. Дык паспрабуйце праз гэткую саму "прастату" ўвасобіць якое-небудзь іншае паняцце. Паверце, не так гэта і проста.

Не навічок на старонках "Маладосці" і В.Кунцэвіч, які працуе ў Магілёве таксістам і завочна вучыцца на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Што да Н. Кучмель (працуе карэктарам у выдавецтве "Вышэйшая школа") і У. Гарачкі (інжынер на "Інтэграле"), дык яны ў "Маладосці" — дэбютанты. У Н. Кучмель ёсць уменне знайсці нечаканы вобраз ("Як хлопец у цельніку — клён у святле// Машыны на развароце"). У. Гарачка, пішучы пранікнёныя лірычныя вершы (змешчана і "Песня"), не абыходзіць і суровых рэалій паўсядзённасці — "Асенні парк // паэты і бамжы // Такая небагатая багема, // Ты кожнаму знайсці дапамажы // На чарку ці рашэнне нейкай тэмы").

І, безумоўна, на ўсім гэтым фоне маэстра глядзіцца П. Макаль (дарэчы, новай падборкай ён прадстаўлены ў "Полымі"). У "Маладосці" багатым (не колькасна, а па змесце) атрымаўся і сшытак прозы. Гэта і апавяданні В. Куксы, і фантастычная аповесць М. Сердзюкова "Узыход агнёў, або Вярба ў хату", і аповесць Хв. Жычкі "Косць твая і плоць мая".

Твор Хв. Жычкі, па сутнасці, аповесць у апавяданнях, якія сам аўтар, праўда, называе эпізодамі, З гэтых эпізодаў і высвечваецца складаны лёс простага вясковага працаўніка Вавілы. Хоць яго, Вавілу Пінчука, звычайным вяскоўцам наўрад ці назавеш. Лепшы стахановец, за самаадданую працу быў узнагароджаны патэфонам. Але ўсё гэта ў былым. Сёння — іншыя рэаліі, бо пачалася вайна. Сама па сабе варожая навала ўжо не нясе радасці, але яшчэ цяжэй на сэрцы ў бацькі ад таго, што яго сын стаў фашысцкім прыслужнікам. Той самы Міша, які, зусім нядаўна "з гонарам нёс па вуліцы... патэфон, нёс дамоў, у новую хату, якую талакой пабудавалі яму аднавяскоўцы за калгасны кошт..."

Бацькавы папрокі нічога не даюць. Міша, як кажуць, застаецца пры сваім. І паплаціўся за гэта жыццём. Партызаны, якія перад гэтым сустракаліся з ім, і, мабыць, хацелі атрымаць ад яго нейкую паслугу, пераканаўшыся, што паліцай такі незгаворлівы, застрэлілі яго. Вавіла, знайшоўшы мёртвага сына, цішком пахаваў яго. Цяпер адна ў бацькі мэта: пераканаць усіх, што Міша працаваў па заданні партызан... І ўрэшце пасля вызвалення дабіваецца ад ваенных і Мішу хаваюць у братняй магіле.

Апошнія радкі аповесці скіраваны і ў наш сённяшні дзень. Мала, вельмі мала мы ведаем яшчэ пра мінулую вайну. Ёсць шмат таямніц, пра якія, відаць, ніколі не даведаемся. Надышоў, нарэшце, час пакаяння і прымірэння. Тым больш, што і сённяшнія жывыя, каму выпала быць апошнімі сведкамі суровай барацьбы з фашызмам, хутка адыдуць: "Гэта праўда, — падумаў Вавіла, — маці не ведае, толькі бацька. І ніколі ўжо не даведаецца. Так склалася — не трэба ведаць Аўдакеі праўду. Няхай яна будзе крыжом для мяне аднаго... Пакуль жыць буду — будзе мне гэты цяжар і боль..." Аповесць Хв. Жычкі якраз моцная тым, што ўзнімае пытанні вечныя, якія не страчваюць свайго значэння з цягам часу. І ад таго, як грамадства ставіцца да іх, не ў малой ступені залежыць, наколькі яно цывілізаванае і гуманнае. Ды гэта па-за творам ужо. Але ж аповесць і прываблівае тым, што заклікае да роздуму — неабыякавага, нялёгкага і гэткага патрэбнага.

І ўвогуле — дзесяты нумар "Маладосці" з тых, што хочацца чытаць ад пачатку да канца, нічога не пакідаючы па-за ўвагай. І гэта тычыцца не толькі паэзіі і прозы, а і публіцыстычных, літаратурна-крытычных матэрыялаў.

Возьмем, для прыкладу, адзін з іх — "Мы — выстаялі... Ці надоўга?" С. Квіткевіча. Пачатак публікацыі, можна сказаць, быў пакладзены роўна год назад, калі "Маладосць" апублікавала развагі С. Квіткевіча "Ты ж мая, перапёлачка, або Бізнес у разрэзе", у якой аўтар, журналіст па прафесіі, што вырашыў паспрабаваць сябе ў ролі маладога прадпрымальніка і арганізаваць перапёлчыну ферму, дзяліўся тым, што з гэтага атрымалася. І вось працяг гаворкі...

Э. Карніловіч ("Сябра Янкі Купалы") знаёміць з П. Шастаковым. Вам прозвішча нічога не гаворыць? Па праўдзе кажучы, мне таксама, хіба што П. Шастакоў значыцца сярод тых, хто ў 1927 годзе стаў аўтарам кнігі, прысвечанай 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы і выдадзенай, між іншым, у Маскве. Няма прозвішча П. Шастакова нават у энцыклапедычным даведніку "Янка Купала". А ўсё таму, што яго аб'явілі "ворагам народа" і ён кануў у Лету. Э. Карніловіч узнаўляе асобныя моманты біяграфіі гэтага таленавітага і сумленнага чалавека.

К. Камейша ("Каласы яго засеўка") дзеліцца думкамі аб творчасці У. Паўлава, удала спалучаючы згадкі аб сяброўскіх кантактах з ім з уражаннямі ад паэзіі У. Паўлава. В. Каваленка ("Самаразбурэнне, ці Скамечаны лёс") па-новаму прыглядаецца да творчасці З. Бядулі, робячы арыгінальныя вывады... Я. Шунейка ("Арганічнасць прыродным стыхіям") знаёміць з маладым творцам В. Угрыновіч, якая працуе ў галіне дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Лепшыя работы В. Угрыновіч шырока прадстаўлены ў нумары, у тым ліку і на яго вокладцы.

Сама час і ў "Полымя" зазірнуць. У паэтычнай падборцы В. Макарэвіча вылучаецца верш

Уражанне

# ПРАКТЫКУМ ІМПЕРЫЯЗНАЎСТВА

## РАЗВАГІ НАД КНІГАЮ Ф. АЛЯХНОВІЧА "У КІПЦЮРОХ ГПУ"

Быў бы наш народ народам-пераможцам, народам-рыцарам з магутным духам — быць бы гэтай кніжцы шнарам, адзнакай доблесці на яго чале. А пакуль ён абяскроўлены, цяжка хворы сядзіць на паперці і паказвае urbis et orbis свае калецтвы. Паказвае і гэту глыбокую рану, рану ад кіпцюроў ГПУ.

Агульны наш заняпад часта выводзіцца з духоўнага зацямнення, недзеяздольнасці і таму не выклікае ў самастойных народаў асаблівага спачування. Але Чарнобыль, нямецкая навала і вось гэты ці не смяротны бальшавіцкі лёс, пэўна ж, абуджалі і абуджаюць у людзей з вольнай часткі свету ўспрыманні колішніх самарыцян.

Аднак нам патрэбна інтраспекцыя. Кніжка Францішка Аляхновіча "У кіпцюрох ГПУ", выдадзеная ў мінулым годзе "Мастацкай літаратурай", — гэта наша гісторыя, а нам надзвычай важна ўшанаваць гісторыю і тым самым пазбегнуць паўтарэння ў будучым яе горшых старонак.

Асаблівая, неаспрэчная вартасць гэтай кнігі мне бачыцца ў тым, што яна аплачана крывёю аўтара, і то не па Фаўсту, а перад Богам.

Якраз гэта акалічнасць, пэўна ж, выдзяляе Францішка Аляхновіча на досыць шэрым фоне афіцыйнай беларускай літаратуры, прыкормленай уладамі. Ды і не толькі на ім. Пісьменнікі наогул альбо стаяць жыццём за тое, што пішуць, альбо з большай ці меншай мерай таленту раздвойваюцца, ствараючы фікцыю. Літаратура фіктыўнай можа быць бліскучай па форме, аднак каштоўны метал — не яна. Відаць, сапраўдная літаратура — бы той паганскі бажок, які (як і свабода) патрабуе ахвяры, — ну хоць колькі меры жыцця для важкасці, будзь то чырвоная вадкасць альбо тыя самыя клеткі, якія не аднаўляюцца.

Сеўшы за аркуш паперы, як заўсёды, я не стаўлю перад сабою мэту інструментальнай рэзекцыі твора. Мая задача бачыцца ў іншым — зрэзаніраваць, калі твор гучыць, і развагамі, вобразамі ды параўнаннямі вызначыць, як магу, прыблізную моц яго гучання.

І ўсё ж, адзначыўшы перавагу аўтара "У кіпцюрох ГПУ" над чараватымі ўтрыманцамі ўладаў усіх часоў, я не праміну спакусы чыстага параўнання.

Пра ГУЛАГ напісна ўжо нямала. Мабыць, напісана даволі, каб маладыя не вярнуліся болей да яго. Але ў адрозненне ад "Одного дня Ивана Денисовича" А. Салжаніцына ці "Крутого маршрута" Я. Гінзбург Ф. Аляхновіч меў магчымасць адразу паказаць меру сталіншчыны.

Ён не хавае, як шчыра ўцёк з польскай часткі Беларусі, дзе было малавата дэмакратыі, і як зведаў ужо праз кароткі час выкапнёвасць "товарищей". Расійскія аўтары не мелі магчымасці такога непасрэднага параўнання. Вядома, што чалавек прывыкае да ўсяго, і вось якраз кніга Ф. Аляхновіча паказвае, што мы тут маем больш шанцаў унікнуць новага спаду ў азіятчыну, бо ў нас, верагодна, меншая традыцыя расійскай "притерпелости".

Фармулюючы гэта, я зыходжу не адно з асобы Аляхновіча, а наогул з духу часу, адбіткам якога ёсць яго кніга.

Стыль Аляхновіча выдае стан свабоды, у якім ён пісаў. Але наўрад ці мог ён сумяшчаць жаданне палітычна спрыяць ідэі незалежнасці Беларусі з успрыманнем быцця над немцамі як свабоды, таму правільна, на мой погляд, было б гаварыць аб кшталце абсалютнай свабоды, ужо колькі вякоў таму апісаным у нямецкай народнай песні:

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ПАЭТ, БРАТ ПАЭТА...

**Споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Нічыпара Чарнушэвіча. Бадай, не ўсе, асабліва з маладых чытачоў, ведаюць, што ён быў родным братам вядомага беларускага пісьменніка Міколы Хведаровіча, які, каб іх "не блыталі", узяў сабе такі псеўданім. Родам з Капыля. Першыя вершы Н. Чарнушэвіч апублікаваў у 1923 годзе ў часопісе "Полымя", а ў 1927 годзе выдаў першую кнігу паэзіі "Дзіва". Наступную — "Нясу надзею" — змог патрымаць у руках толькі ў... 1962 годзе.**

**Як і многіх беларускіх пісьменнікаў, Н. Чарнушэвіча не мінулі рэпрэсіі. Улетку 1930 года ён быў арыштаваны, прыгавораны да пяці гадоў высылкі ў Вятку. Абвінавачванні былі зняты ў жніўні 1935 года. Выкладаў гісторыю ў школах Масквы, а ў кастрычніку 1941 года пераехаў у Цюмень, працаваў журналістам. У Мінск вярнуўся ў 1947 годзе. Памёр Н. Чарнушэвіч 17 лютага 1967 года.**

**У 1966 годзе выйшаў зборнік вершаў "Гаворка дум", у 1975 годзе пабачылі свет "Выбраныя творы". Н. Чарнушэвіч напісаў п'есы "Шукальнікі вышыні", "Сям'я доктара Чыверса", кінасцэнарый "Арсенал пачуццяў", перакладаў на беларускую мову творы рускіх, украінскіх, яўрэйскіх паэтаў.**

## У ДУШЫ БЫЎ МАРАКОМ

**вядомы пісьменнік Аляксандр Міронаў, з дня нараджэння якога споўнілася 85 гадоў. Палюбіў ён мора з юнацтва. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы свайму настаўніку, выкладчыку геаграфіі І. Фёдараву, а пасля знакамітаму пісьменніку Янку Маўру, які ахвотна расказваў вучням пра экзатычныя краіны і далёкія падарожжы.**

**У 1979 годзе А. Міронаў напіша кнігу, якой дасць падзагаловак "аповесць-успамін" і назаве яе "Дзед Маўр".**

**А тады, юнаком, акрылены рамантыкай, ён паехаў у Архангельск, уладкаваўся матросам другога класа на ледакольны параход "Малыгін". Давялося А. Міронаву прымаць удзел і ў знакамітай чэлюскінскай эпапеі 1933—1934 гадоў. Пазней пра ўсё гэта ён расказаў у кнізе "Лядовая адысея".**

**Дэбютаваў жа Аляксандр Яўгенавіч зборнікам "Марскія будні", што выйшаў у 1932 годзе ў Архангельску. На пісьменніцкім рахунку А. Міронава — дзесяткі кніг, выдадзеных і ў тым жа Архангельску, і ў Маскве, і ў Мінску. Нямала зрабіў ён і па апрацоўцы, літаратурным запісе ўспамінаў так званых "бывалых людзей".**

**Жыў не толькі ў Мінску, але і ў Кактэбелі, дзе таксама меў дом. З морам і застаўся назаўсёды: прах Аляксандра Яўгенавіча (памёр ён 15 снежня 1992 года) па яго апошняй волі быў развеяны над Чорным морам.**

## СУСТРЭЧА З АКТРЫСАЙ



**Прайшлі Дні польскай культуры ў Мінску. У сталічным кінатэатры "Перамога" адбылася сустрэча гледачоў з адной з самых папулярных у Польшчы і на Беларусі актрысай кіно Барбарай Брыльскай.**

*На здымку: Барбара Брыльска ў час сустрэчы з гледачамі.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

Архіварыус

# ...І СМЕЛА Ў КЛАСІКУ КРОЧУ...

***Імя Уладзіміра Караткевіча шырока вядома на Беларусі. Рана, вельмі рана пайшоў ён з жыцця, але і за кароткі свой шлях на зямлі пакінуў вялікую спадчыну нашчадкам. Многа яшчэ трэба зрабіць даследчыкам, каб разгадаць таямніцу яго творчасці. Па крупіцах збіраюць супрацоўнікі архіва-музея літаратуры і мастацтва ўсё, што звязана з яго імем.***

***Зусім нядаўна да той невялікай часткі асабістага архіва У. Караткевіча, які захоўваецца ў БДАМЛіМ, далучыліся яшчэ тры лісты — цікавыя і змястоўныя. Перадала іх былая настаўніца Сваткаўскай школы, што на Мядзельшчыне, Пястун Вольга Іванаўна. Два разы быў Уладзімір Сямёнавіч у гэтай школе, выступаў перад вучнямі і добра ведаў настаўнікаў, а з Міколам Пашкевічам, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, сябраваў. На жаль, лёс М. Пашкевіча склаўся трагічна, ён таксама рана памёр, але за свой кароткі век паспеў зрабіць больш, чым іншы за доўгае жыццё. Тады, у цяпер ужо далёкія 1960-я, многія з вядомых пісьменнікаў былі частымі гасцямі Сваткаўскай школы.***

***Прапануем увазе чытачоў тры лісты У. Караткевіча да М. Пашкевіча і яго вучняў.***

**Ганна ЖУКАВА, загадчыца аддзела камплектавання і экспертызы каштоўнасці дакументаў БДАМЛіМа**

*18 лістапада 71 г.*

**Дарагі Мікола!**

Быў далёка на поўдні. Зноў хадзіў з рыбакамі ў мора. Толькі што вярнуўся і адказваю табе таму толькі цяпер, калі, напэўна, і позна ўжо. Нічога. Не цяпер, то спатрэбіцца ў чацвер. Прабач. У якасці доказу, што гэта так — прыкладаю аўтобусны білет з Гагры ў Адлер. Самалётны, на жаль, некуды выкінуў. Але, думаю, паверыш і так. Шкада, што спазніўся і не здолеў памагчы табе, ды й зараз не магу пісаць шмат, бо спраў вышэй галавы, а я днямі на месяц еду ў Польшчу. Моцна цябе абдымаю, дарагі, жадаю поспехаў.

Заўсёды твой

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.



*18 лістапада 1971 г.*

**Дарагія сябры!**

Вы хочаце, каб я ўспомніў свае ўражанні аб двухкратным наведванні мною Вашай школы.

Бадай што я за гады перазабыў шмат падрабязнасцяў і не здолею ўспомніць і напісаць шмат. Але ніколі не сцярэцца з маёй памяці самы дух Вашай школы, разумныя вочы дзяцей, падлеткаў і юнакоў, шчырая гасціннасць настаўнікаў, агульная любоў Ваша да роднага нам беларускага слова, гарачая цеплыня, з якой Вы прымалі нашы вершы, агульная атмасфера зычлівасці, сяброўства і любові.

Ды і ўвогуле ўся Ваша цудоўная Мядзельшчына — адзін з найлепшых куткоў роднай нашай зямлі.

Я ведаў яе і раней: з азёрамі і ўзгоркамі, з няўрымслівым гумарам людзей, з іх працалюбствам і прыгажосцю. Тут здымаўся мой фільм, тут я лавіў рыбу і прысутнічаў на археалагічных раскопках. Але мне здаецца, пакуль я не пазнаёміўся з усімі, я не ведаў наваколляў Мядзеля. Чытаў шмат, беспаспяхова шукаў на многіх вясковых могілках славутую сярэдневяковую пліту, апісаную вучонымі мінулага стагоддзя, тую, на якой ляжыць чалавек, а пад галавою ў яго гляк акавітай, а у нагах сабачка і меч пры баку.

І надпіс:

**Тут ляжыць Іван Сямашка.**
**У галавах гарэлкі пляшка.**
**Пры баку востры меч ляжыць.**
**У ног верны сабачка тужыць.**
**Ого-го, ого-го!**
**Што каму да таго?**

Для мяне шчасцем было пазнаёміцца з Вамі, чытаць Вам свае вершы, адчуваць, што яны падабаюцца.

У першы раз мы, Г. Бураўкін, Лойка, Язэп Семяжон, Слава Рагойша, Акаловіч і я выступалі ў Вас 17 снежня 1966 года, наколькі я памятаю. Па нас у Мінск прыехала машына (ці гэта было ў другі раз?). Дарогаю мы шмат гаманілі, і аб літаратуры, і аб школе (я ж таксама былы вясковы настаўнік), і проста так аб жыцці. Хораша было. І выступленне, як і ў другі раз, прайшло са здзіўляючым поспехам, што я адношу не за кошт нашых вершаў, а хутчэй за кошт Вашага дружалюбства. Заязджалі мы і ў Будслаўскую школу, аглядалі славуты помнік архітэктуры, стварэнне рук нашых продкаў, тамтэйшы касцёл (цяпер ён хутка будзе ўзяты пад ахову дзяржавы).

А па дарозе адтуль пабывалі у Пількаўшчыне, на радзіме Максіма Танка у прытульным і надзіва гасцінным ягоным доме. Тады быў яшчэ жывы ягоны бацька, мілы невысокага росту чалавек. І я ніколі не бачыў нават крыху палохаючых і, адначасова, такіх прыўкрасных рабочых рук, як у яго маці. Чорныя, як зямля, усе пасечаныя шнарамі і зморшчынамі.

Пяў мароз, цукарна зіхацелі гурбы на даху, пад платамі, на галінах елак. Я быў у лёгкім паліто, а нам трэ было праехаць некалькі кіламетраў да аўтобуса ў адкрытай машыне. І тады бацькі паэта далі мне стары кажух, што, між іншым, дало падставу гэтаму нягодніку Рыгору Барадуліну з ходу напісаць пра мяне эпіграму:

**Ледзь толькі раскрыў я вочы —**
**Змахнуў шаблонаў труху,**
**І смела ў класіку крочу...**
**У Танкавым кажуху.**

Другі раз той жа Барадулін, Лойка, Мікола Аўрамчык і я былі ў Вас 5 кастрычніка 1968 года. І зноў быў надзіва цеплы прыём, і мы, у які ўжо раз адчулі, што ў Вас мы — дома.

І машына, уторканая залатымі галінамі асенніх дрэў, і барвяныя Вашы лясы, і танцы да ўпаду ў калідоры, і розныя дурыкі, накшталт катка, пакладзенага ў капялюш Алега Лойкі (чаго? А так. Здалося смяшней). І дарога назад на мяшках з бульбай. І гэта сяброўства. І чысціня пачуццяў, і Ваша любоў да роднай паэзіі — вось гэта, мабыць, і ёсць шчасце.

Ад усёй душы спадзяюся, што гэта не апошняя наша сустрэча.

Дзякуй Вам за ўсё. Бывайце шчаслівыя.

Ваш Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.

*29 студзеня 1972 г.*

**Дарагі Мікола!**

Прабач, што доўга не адказваў на тваю святочную паштоўку, дарагі мой, мілы дружа. Быў у Польшчы і, ледзь паспеў прыехаць адтуль (там швэндаўся цэлы месяц) — забралі мяне пад белыя рукі і павалаклі на Палессе, у Клетную пад Пінск, здымаць фільм пра Каляды. Цяпер вось толькі вярнуўся ды адказваю на ўсю карэспандэнцыю, бо праз пару дзён зноў Палессе. Трэба канчаць здымкі фільма. Знялі шмат цікавага: нашэнне "звязды", хаджэнне "дзеда з казою", "цыганку", што частуе ўсіх гарэлкай, "каня" і "мядзведзя". Песень запісалі і зазнялі — сотні. І ўпрыгожванне каравая і палаючыя карчы.

...Я невыразна чуў ад кагосьці з акадэмічнага інтэрната, што ты нібыта нядужыш. Вось гэта, браце, ужо нікуды не варта. Ачуньвай хутчэй, набірайся сілы. Улетку паедзеш са мною ў экспедыцыю, абследваць Ушацкі, Браслаўскі і Глыбоцкі раёны. Праўда, папраўляйся.

Ці зрабілі дзеці выстаўку і ці добра яна атрымалася? Перадавай мае прывітанні ім і настаўнікам. Моцна абдымаю цябе, харошы мой дружа, і жадаю здароўя і шчасця.

Твой Ул. КАРАТКЕВІЧ

# АПРАМЕТНАЯ І РАЙ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

*(Працяг. Пачатак на стар.5)*

госць прыйшоў з вялікай душэўнай згрызотай ды крыўдаю.

*"— Расказвай, — сказаў трохі пасля Саваоф. — як там на маёй зямлі беларускай? Сам ведаю, паскудна так, што горай быць не можа, дзякуючы лютым пастырам гэтым, але ты расказвай, кажы.*

*І Хрыстос расказаў. Пра голад і крyцельствы, пра ашуканства, прыгнёт, подласць, ханжаства і забойствы сумленных. Пра справу веры і святую службу, пра дзікае прыніжэнне годных і засцісканне рота, пра бессаромную ліслівасць і высокую мужнасць, пра ярасць і мяцеж, пра дзікі боль і высокую журбу, пра ўсё, аб чым мы ўжо ведаем.*

*...Плакала Марыля, калі ён скончыў, а сам ён сядзеў, закрыўшы далонямі твар.*

*Саваоф высмаркаўся ў белую анучку, паківаў галавою, наліў Хрысту гарэлку замест чаркі ў здаравенны кубак і сказаў глуха:*

*— Выпі. Табе цяпер во гэтак і трэба лупянуць. Зап'еш тут ад такога жыцця. Выпі. Плюнь, сынок. Ну што ты з імі зробіш, калі яны там на зямлі дурні, чакушы ашалелыя. Маладыя яны яшчэ, людзі. Дурныя, пакуль тое.*

*— Дык што ж, і за такіх гінуць?*

*— Выпі... Выпіў? І за такіх, сынок... І за такіх, якія яны будуць.*

*— Якія?*

*— Глядзі.*

*І Саваоф расчыніў акно".*

І падарожнік убачыў... Не, не камуністычны рай на Беларусі, але той Эдэм, які Госпад падараваў Беларусі ў вядомым апокрыфе з "Каласоў...": дагледжаныя палеткі, густыя зялёныя паплавы, коні, якіх ніхто не б'е і якія глядзяць на свет чалавечымі вачыма, і шчаслівыя, працавітыя, разумныя людзі. Нешта, якое прымусіць згадаць "Рай" на маляванках Алены Кіш. Беларускі Эдэм, на якім замест "лепшага ў свеце начальства" гаспадарыць сам Госпад — бо "на Беларусі Бог жыве".

І тую Беларусь Пісьменнік забраў з сабой, як Гервасій Выліваха прыхапіў у апраметную галінку шыпшыны.

А тыя, ад каго ён сышоў, — яны папранейшаму ў Ладдзі Роспачы. Прыніжаныя, прыгнечаныя, бязмоўныя слепакі, якія забыліся на сонца, на смех, на людскую гаворку і песню. І вяслуюць з тупой зацятасцю да ўладанняў пані Смерці. А навакол успененае ржавае мора, нізкае неба і больш нічога, апрача вёслаў ды спадзявання на Боскі цуд.

Вечарыны

# І ЎЗРОС ЁН, БЛАСЛАВЁНЫ ГЭТЫМ КРАЕМ...

***Багатая на таленты валожынская зямля. Радзіма Старога Уласа і незабыўнай цёткі Уладзі ўзбагаціла нашу родную літаратуру імёнамі пісьменнікаў і вучоных Віктара Каваленкі і Вячаслава Рагойшы, дала крылы для ўзлёту паэтам Хведару Чэрню, Пятру Бітэлю і Віктару Шніпу. Іх творчасць, іх імёны тут добра ведаюць, шануюць і ўшаноўваюць.***

Літаратурная вечарына, што адбылася ў Вішнеўскім Доме культуры 11 лістапада, была прысвечана памяці Хведара Чэрні. Сюды, у Вішнева, ён дзесяць гадоў адхадзіў і ад'ездзіў на ровары са сваёй вёсачкі Лінкі, што прытулілася над рачулкай Гальшанкай, у школу. Тут спазнаў радасць першага надрукаванага радка, тут ён працаваў пасля школы загадчыкам сельскага клуба, адсюль паехаў вучыцца ў сталіцу, пайшоў у вялікую літаратуру.

Ён не адзін раз вяртаўся сюды, на сцяжынкі маленства і юнацтва, каб праведаць бацькоў, сустрэцца з сябрамі і чытачамі. Аднаго разу на літаратурную сустрэчу, што была наладжана ў Вішневе, запрасіў і нас, сваіх сяброў. Даўно гэта было, яшчэ ў гады нашай маладосці, а той летні вечар помніцца як сёння: зала клуба — поўная, нас прымаюць шчыра і гасцінна.

Хведар Чэрня шмат і натхнёна працаваў. Дванаццаць кніжак для дарослых і дзяцей выдаў ён. Іх было б куды болей, калі б не заўчасная смерць. Дванаццаць гадоў таму... Але жывуць яго вершы, добрым словам успамінаюць сябры, знаёмыя і малазнаёмыя людзі, каму ён у свой час дапамог у літаратуры, проста ў жыцці. Яшчэ шкада: як гэта ў нас часцей бывае, яго, па-свойму адметнага і таленавітага, пры жыцці так і не заўважыла, па-сапраўднаму не ацаніла наша літаратурная крытыка. Што ж датычыць радавых чытачоў, дык яны добра ведалі, адчувалі і разумелі слова Хведара Чэрні, сутнасць яго паэзіі...

Гэтым разам не ў тым, старым, а ў новым прасторным будынку Вішнеўскага ДК людзей сабралася трошкі меней: відаць, ужо час не той, клопатаў вяскоўцам прыбавілася дый ранні холад умяшаўся. Аднак настрой ва ўсіх быў прыўзняты і святочны. Да землякоў Хведара Чэрні прыехалі яго колішнія паплечнікі па пяры Уладзімір Паўлаў, Казімір Камейша, Мікола Маляўка, аўтар гэтых радкоў і Алесь Камароўскі. Ім было што ўспомніць і прачытаць, бо сябравалі з Хведарам не па адным дзесятку гадоў, пабывалі ў далёкіх і блізкіх вандроўках, прайшлі па адных сцяжынках і дарогах, не згасіўшы іскрынкі сяброўства, што саграваля іх ва ўсе часіны жыцця.

У той вечар гучала паэзія, бо Хведар Чэрня быў паэтам ад прыроды.

У той вечар гучала музыка, бо паэт быў яшчэ і цудоўным музыкантам.

У той вечар прысутнічала на вечарыне Памяць. Яна прамаўляла голасам паэта: на шчасце, у яго сям'і захавалася магнітная стужка, і Хведар Чэрня быццам сам уступаў у паэтычна-музычны дыялог вечарыны і чытаў землякам і гасцям-сябрам свае вершы розных гадоў. Гаварыў з усімі, як жывы з жывымі. У тых шчымліва-хвалюючых радках паэтычнага маналогу, як і раней, чулася захапленне жыццём, красой роднай зямлі, крынічна струменілася радасць маладога пачуцця, гучаў напамін, каб людзі не гублялі дабрыні, гаварылі добрыя словы адзін аднаму пры жыцці, а не тады, калі нехта з нас адыдзе за магільнікавую браму:

**Хоць даўно быў маленькім, малым**
**І гады за жыццё прымарылі,**
**Не хачу, каб у часе былым**
**Пра маю дабрыню гаварылі...**

Вельмі цёпла прымалі слухачы песні, што напісаў на словы Хведара Чэрні да гэтай вечарыны мясцовы кампазітар, мастацкі кіраўнік ДК Уладзімір Гаркуша. Ён жа сам і спяваў іх перад мікрафонам пад акампанемент баяна.

Свае радкі, прысвечаныя Хведару Чэрню, роднай старонцы, тым праявам жыцця, што хвалююць іх, прачытала са сцэны маладая паэтка з Валожына Валянціна Гіруць-Русакевіч, а таксама юныя сябры літгуртавання, што працуе пры райгазеце "Працоўная слава", Юля Шапарэвіч і Аня Тур.

Выступіла жонка паэта Надзея Анатольеўна. Гэта былі не проста ўспаміны, згадкі з сямейнага жыцця — яна пазнаёміла з архівам свайго мужа, прачытала вершы, дарослыя і дзіцячыя, якія, на вялікі жаль, дагэтуль не пабачылі свету, не сталі кніжкай.

Правядзенню вечарыны паспрыялі дырэктар бібліятэчнай сеткі Валожынскага раёна А. Родзевіч, старшыня Вішнеўскага сельсавета У. Аль, дырэктар ДК Д. Сучкевіч і іншыя, каму блізкая творчасць іх паэта-земляка.

У той дзень пісьменнікі з Мінска аддалі даніну пашаны і памяці яшчэ двум паэтам — усклалі кветкі на магілы Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля, якія пахаваны ў Вішневе.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

Пошта

# ТОЛЬКІ Б НЕ СПАЗНІЦЦА!

***Здавалася б, гэткая дробязь; і не такое крадуць, нават ад блізкіх, родных, нават у сем'ях. Але тое, што выпадкова ўбачыла з вакна свайго сціплага лецішча, моцна, балюча ўразіла. Мажны мужчына, па-зладзейску насцярожана, сквапна рваў маліну з кустоў суседкі-ўдавы...***

***А побач жа — уласны маліннік, а ў лесе, што зусім блізенька, ураджай гэтых смачных ягад сёлета быў проста незвычайны.***

За кімсьці сачыць, падглядваць, безумоўна, таксама не надта прыгожа, гэта амаль тое, што самому красці, тым больш, калі назіраць з яўным намерам асуджаць. Але ж не паспела я адвесці позірк, як з-за дома выйшаў унук удавы, самотны падлетак, сіраціна — удава нядаўна страціла адзінага сына. Мужчына, як гусак выцягнуўшы шыю ў напрамку ўласнай сядзібы, пракрактаў нябачнай жонцы: "Ці скора ты там?" і паважна пакрочыў да сваёй машыны, што стаяла, зноў жа, на суседчынай палове дарогі. Сваю частку дарогі ён, як і многія іншыя дачнікі, уладары 4-х сотак, бадай што ці не цалкам адхапіў пад агарод, замацаваўшы гэты самачынны акт металічнаю сеткаю-плотам.

Жонкі яго пакуль што не відаць было. Як большасць жанчын, яна, напэўна, усё яшчэ мітусілася недзе ў хаце — клопатаў пры ад'ездзе хапае. А я згадваю: "І што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а бервяна ў сваім не адчуваеш? Ці, калі скажаш брату твайму, дай я выму сучок з вока твайго, а вось у тваім воку бервяно? Крывадушнік! Вымай спачатку бервяно з свайго вока і тады ўбачыш, як вымаць сучок з вока брата твайго" (МЦВ, УП, 3-5).

Як жа прыкіпеў да многіх з нас гэты грэх асуджэння! Пасля разумнай душэўнай устрыманасці, пры ўзрастанні масы (як кажуць фізікі) новых грахоў узбураюся духам і я, грэшная, ускіпаю гневам і, здавалася б, з добрым намерам усталяваць справядлівасць, едка выгаворваю тое, што абражае чалавечую годнасць, забываючы, што праз гнеў лёгка пасці ў грэх, сапсаваць рэпутацыю і, наогул, нашкодзіць вялікай справе духоўнага выратавання людзей. "Працўнік Ваш, д'ябал, ходзіць, як рыкаючы леў, шукае, каго заглынуць" (І Пётра, У, 8). Як жа даступны мы ворагу нашаму, што ён гэтак лёгка, адным махам заглытвае многіх, сеючы між людзьмі жорсткасць, варожасць, нянавісць. Цяжкае выпрабаванне не быць пачутым, адчуваць няздольнасць аказаць дапамогу, адкрыць вочы непрыхільным да Вечнай ісціны, заўважаць перакручанасць, вываробванне псіхікі, нават нейкую помсту за непадобнасць да сябе. Быццам увесь час над табою трымаюць сіло. "Агіднасць для праведніка чалавек няправедны, агіднасць для бязбожніка той, хто ідзе прамым шляхам" (прытчы, 29, 27). У кожным учынку сумленнага чалавека недасканалы душою бачыць фальш, пазёрства, а то і папулізм, як гэта часта цяпер называецца.

Няцяжка ўявіць усю складанасць становішча паслядоўных руплівцаў на ніве будучыні, якім вельмі патрэбна дапамога сваіх суайчыннікаў. На жаль, гарызонты грамадскай свядомасці на карысць адраджэнню для многіх людзей нашай рэспублікі надзвычай аддалены ці наогул размыты. Няёмка было за настаўніка, які даводзіў неяк па радыё, што газета "ЛіМ" павінна быць убаку ад палітыкі. Ці ж можна ў такі цяжкі для краіны час быць літаратару па-за палітыкай? Хто ж будзе з "цэлым народам гутарку весці", каб хутчэй узрастала яго свядомасць? Толькі б не пахіснулася, заўчасна не паддалася (як гэта ўсё часцей адбываецца) пад "гарматнымі ядрамі" працўніка безабароннай рэць майстроў слова.

Бадай што ці не нормай жыцця стала ў нас зневажальнае стаўленне да творчай інтэлігенцыі. Нямала знойдзецца тых, хто бачыць пісьменніка ледзь не трутнем у грамадскім спутошаным вуллі.

Не так даўно быў дзень нараджэння Алеся Адамовіча — ужо другі раз без прысутнасці яго самога. Сорамна і балюча прыгадваць даўнюю эпапею вакол артыкула пісьменніка "Азірніся навокал" ("Огонёк", 1988, N 39) і цкаванне яго пасля гэтага ў рэспубліканскім друку, "абурэнне" падстаўнога рабочага: "Я працаваў, а ён мой хлеб еў".

Цяжкі, невыносны выпадак. І, разам з тым, не можаш не думаць пра тое, як умеў прадбачыць будучае незабыўны Алесь Міхайлавіч. Міжволі ўспамінаюцца "выбухі" пад крэсламі галоўных рэдактараў вядучых беларускіх газет, якіх пазбавілі пасад.

Чыстым вытокам высокіх маральных якасцей перш за ўсё служыць сям'я, станоўчы прыклад бацькоў, атмасфера добразычлівасці, увагі, павагі да чалавека, шанаванне духоўных каштоўнасцей. "Дзе твая бабуля?" — запыталася дачніца ў хлапчука, што сядзеў на прыступцы ганка. — "Калі вы па малако, то бярэце ў гэным вядры, гэта дачнікам. Сабе бабуля ў другое дадойвае, бо ў канцы дойкі малако тлусцейшае", — далажыў прастадушна хлапчук, люстэрка душ дарослых. З малога, як вядома, бярэ пачатак вялікае. Вось хай кожны і думае, з чым выпускае ў грамадства свайго выхаванца, што той будзе сеяць навокал сябе. Біблейскія прытчы, скарбніцы мудрасці, сцвярджаюць: "Сярод мудрых станеш мудрым, побач з дурным разбэсцішся" (13,20); "Бязглуздасць чалавека скрыўляе шлях яго, а сэрца яго абураецца на Бога" (19,3). У выніку — здрада, нястача, напружанасць (а дзесьці і прагнасць, разбэшчанасць ад лёгкіх грашовых набыткаў), сваркі, разлады, разводы, п'янства, якое ўсё болей высільвае, спустошвае розум грамадства. Хтосьці ў масках пазіруе, хтосьці выкідвае смецце без хованак, ды ў кожным асобным выпадку — сціранне асобы, гвалтаванне маралі, культуры добрых адносін, што пераносіцца і на грамадства, адным словам, шабаш чарцей.

Судзім, зласловім, сячом, як сякерамі, усё болей падаем так, што без дапамогі ўжо не ўзняцца. Адметная рыса нашага часу — свабода ад продкаў, нярэдка зняслаўленне іх, але з выцісканнем сабе дабрабыту. Ці дастаткова бярэцца ў разлік нашчадкамі нашымі запавет Божы, аб якім не ўсе нават ведаюць: "Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб добра табе было і каб доўга жыў на зямлі. Хто зласловіць бацьку свайго і маці сваю, каганец таго патухне сярод глыбокай цемры" (Прытчы, 20, 20). Ці не спрыяе грэх зняслаўлення блізкіх шматлікім хваробам, заўчасным смерцям маладых?

"Вы не думаеце пра сваіх дзяцей, унукаў", — пагардліва таўханўшы, абразліва папракаў сын маці за тое, што частуе ўласнай гароднінай бедных. "Спяшаецца да багацця зайздросны чалавек і не думае, што нястача напаткае яго" (Прытчы, 28, 22). "Мала, мала, мала", — слова-магніт, якое няспынна чэпіцца да чалавечай натуры. "У ненатольнасці дзве дачкі: "давай, давай!" (Прытчы, 30, 15). Дзе толькі ні акапаліся хабарнікі, злодзеі, у якіх толькі сферах ні распладзіліся, каб ушчэнт пераблытаць паняцці — чужое, грамадскае, дзяржаўнае, уласнае, парушаючы запавет Божы "не ўкрадзі". Ды толькі ці на карысць будзе тое, што ўкрадзена, што вымагаюць зайздросныя вочы? Нядоўгай, пякучай будзе іх тая карысць. Як яшчэ не ўмеем, не жадаем мы (кожны на сваім матэрыяльным узроўні) развітвацца з лішкамі, памятаць аб літасці, найгалоўнейшай для нас, людзей, якасці. "У аднаго багатага быў добры ўраджай у полі. І ён разважаў сам з сабою: што мне рабіць? Няма куды збіраць пладоў маіх. Сказаў: вось што зраблю: зламаю жытніцы мае і пабудую вялікія і збяру туды ўвесь хлеб мой і ўсё дабро маё. І скажу душы маёй: душа, дабра ляжыць у цябе на многія гады, адпачывай, еш, пі, весяліся. Але Бог сказаў яму: "Вар'ят! Гэтай ноччу душу тваю забяруць у цябе. Каму ж будзе тое, што ты нарыхтаваў?" Так бывае і з тымі, хто збірае скарбы для сябе, а не ў Бога багацее" (Ад Лукі, ХП; 16-21). Ці ж не сучасна гучаць сёння гэтыя словы?

Як коні на пашы, усё яшчэ стрыножаны многія чалавечыя душы неразуменнем паняцця грэху. Сварка ў транспарце. Як гэта часта бывае, вадзіцель прыгараднага аўтобуса раздаў білеты толькі тады, калі ўмоўнымі знакамі праінфармавалі вадзіцелі сустрэчных аўтобусаў, што на лініі — кантралёры. "Прамахнуўся" шафёр, перадаў стары білет з нумарам з іншага блоку білетаў. І колькі ж знайшлося ў яго абаронцаў! Колькі гучала з розных бакоў крывадушша і фальшу! "Ён у нас харошы, усім білеты дае!", "Адзін раз ашыбся, прасцеце яго", "У чалавека, можа, няма на што жыць" і г. д. Паборніка справядлівасці, што звярнуўся да пасажыраў на роднай мове, заклікаў да сумлення, патлумачыў, які гэта грэх — беззаконне, ледзь не "праглынулі": "Шукай праўду ў кабінетах", "Шукай там, дзе крадуць вагонамі", "Нясі ў царкву гэты грэх"...

Дык якія ж мы? Што сабой уяўляем? Што ў душах? Пусты пясок ці з крупінкамі золата? І наогул, хто ў нашым доме гаспадар?

Менавіта такое пытанне я задала інтэлігентнаму на выгляд мужчыне, які, не звяртаючы ўвагі на чаргу, працяглы час размаўляў па тэлефоне спачатку сам, потым перадаў трубку сыну і той, па прыкладзе бацькі, ігнаруючы чаргу, пачаў падрабязна расказваць пра свае дзіцячыя справы. "Ці ж будзе ваш прыклад непавагі да нас станоўчым у выхаванні сына?" — не вытрымаўшы, спытала я бацьку. "Переведите на нормальный, человеческий язык, я русский", — задзірыста, ганарыста выпаліў ён. Дык хто ж у доме гаспадар?

"...Стаю ля дзвярэй і стукаюся і калі хто пачуе голас Мой і адчыніць дзверы, зайду да яго і буду вячэраць з ім і ён са Мною" (Адкр, ІІІ,20).

Ці не надышоў час хутчэй здымаць рызманы атэізму, прыбіраць у пакоях і клікаць Высокага Госця? Каб не драмала сумленне. Каб працвярэзіўся розум, абудзілася годнасць прыніжаных. Каб спажывалі сваю маліну. Але — пазбегнуўшы працістаяння.

Толькі б не спазніцца!

**Сястра ЛАРЫСА**

*г. Мінск*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## НАЗАЎСЁДЫ З БЕЛАРУССЮ

**Вядомаму рускаму пісьменніку Канстанціну Сіманаву 28 лістапада споўнілася б 80 гадоў. Ён пайшоў заўчасна з жыцця 28 жніўня 1979 года пасля цяжкай, невылечнай хваробы. Незадоўга да смерці завяшчаў, каб прах яго развеялі на Буйніцкім полі паблізу Магілёва. Тым самым Канстанцін Міхайлавіч назаўсёды парадніўся з беларускай зямлёй.**

**Першыя два свае рэпартажы з фронту К. Сіманаў зрабіў у чэрвені 1941 года каля Барысава і Оршы, а трэці, змешчаны ў газеце "Известия" 20 ліпеня 1941 года, пісаўся пад Магілёвам, акурат на тым самым Буйніцкім полі, дзе байцы 388-га стралковага палка пад камандаваннем С. Куцепава знішчылі 39 нямецкіх танкаў.**

**Дарэчы, воіны згаданага палка, афіцэры яго, апалчэнцы Магілёва — прататыпы многіх твораў пісьменніка. Прысутнічаюць яны і ў яго знакамітай трылогіі, што складаецца з раманаў "Жывыя і мёртвыя", "Салдатамі не нараджаюцца", "Апошняе лета" і якая была ў 1974 годзе адзначана Ленінскай прэміяй.**

**У пасляваенны час Канстанцін Міхайлавіч часта наведваў Беларусь (а ў Магілёве бываў неаднаразова). Для прыкладу, у 1975 годзе ён прымаў удзел ва Усесаюзнай нарадзе пісьменнікаў, якія пішуць на ваенную тэму, што праходзіла ў Мінску, а пасяджэнне па нарысе і публіцыстыцы, што праводзіў у Мінску Саюз пісьменнікаў СССР, асабіста кіраваў.**

**Вершы К. Сіманава на беларускую мову перакладалі М. Аўрамчык, С. Дзяргай, М. Калачынскі, У. Паўлаў, К, Цвірка і іншыя. А. Кудравец пераўвасобіў па-беларуску аповесць "Дні і ночы". На сцэне купалаўскага тэатра ішлі спектаклі па п'есах К. Сіманава "Хлопец з нашага горада", "Рускія людзі", "Чацвёрты", "Чужы цень". Шэраг спектакляў паставілі і коласаўцы.**

## БУДЗЕМ РАСПАЎСЮДЖВАЦЬ САМІ!

**Незалежная выдавецкая кампанія "Тэхналогія" пачынае працу па стварэнні альтэрнатыўнай сістэмы распаўсюджвання кніг, часопісаў і газет на беларускай мове.**

**Мабыць, не трэба тлумачыць, наколькі гэтае пытанне цяпер актуальнае: дзяржаўныя структуры (Белкніга, Бібкалектар, Саюздрук) фактычна ігнаруюць гэтую справу, у выніку чаго вельмі патрэбная і карысная літаратура амаль не даходзіць у абласныя і раённыя гарады, школы, ліцэі, бібліятэкі.**

**Выдавецтва "Тэхналогія" прапануе вам далучыцца да гэтак неабходнай сёння працы — распаўсюджання беларускамоўных выданняў. Калі асабіста вы з-за сваёй занятасці, або з іншых прычын не зможаце ўзяць у гэтым удзел, спадзяёмся, што такі чалавек знойдзецца сярод вашых супольнікаў. У кожным разе для ўсіх нас вельмі важны станоўчы зрух у гэтай галіне.**

**Актывіст кнігараспаўсюджання можа стаць нашым афіцыйным прадстаўніком у сваім горадзе, мястэчку ці рэгіёне. У залежнасці ад вынікаў супрацоўніцтва мы гатовы выплачваць кандыдатам у прадстаўнікі 15% і болей ад сумы рэалізаваных кніг. Для асабліва здольных магчыма сталая праца ў "Тэхналогіі".**

**Літаратуру для рэалізацыі мы можам дасылаць поштаю або даваць у офісе кампаніі (транспартныя і камандзіровачныя выдаткі пры наяўнасці адпаведных дакументаў кампенсуюцца). Форма пералічэння грошай за выданні — любая.**

**У выпадку сур'ёзнага падыходу, належнай арганізацыі працы такая структура стане добрай базай і для пашырэння выданняў Таварыства беларускай мовы, для актывізацыі асветніцка-прапагандысцкай дзейнасці нашых рэгіянальных арганізацый.**

**Зацікаўленыя асобы могуць звяртацца на адрас: 220007 г. Мінск, вул. Магілёўская, 43, офіс 210, НВК "Тэхналогія". Тэл.: 27-19-40, 21-77-40.**

**Вацлаў БАГДАНОВІЧ,**
**прэзідэнт кампаніі "Тэхналогія"**

## "ФАТАГРАФІЯ З МІНСКА"

**30 кастрычніка ў мінскай Галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" пры падтрымцы Інстытута Гётэ, Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь і ЗАТ "Белтэхналогія і М" адбылося адкрыццё выставы "Фатаграфія з Мінска". Экспазіцыя стала адгалоскам поспеху аднайменнай выставы твораў І. Саўчанкі, У. Парфянка (на мінскай выставе не прадстаўлены), С. Кажамякіна, Г. Маскалёвай і У. Шахлевіча, што адбылася мінулай восенню ў берлінскай "IFA - Galerie".**

**М. Б.**

***Дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння ў перадрэвалюцыйныя гады, народны сакратар земляробства ў Радзе БНР, загадчык планава-эканамічнага аддзела Наркамзема БССР, член прэзідыума і старшыня аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Інстытута беларускай культуры, аўтар першага падручніка па геаграфіі Беларусі Аркадзь Антонавіч Смоліч у чэрвені 1930 г. быў арыштаваны за прыналежнасць да неіснаваўшага "Саюза вызвалення Беларусі" ("СВБ"). З арыштам, зразумела, згубіў усе свае правы, у тым ліку і званне прафесара па кафедры геаграфіі, якое атрымаў у 1927 г., загадваючы кафедрай Белдзяржуніверсітэта.***

***У красавіку 1931 г. А. Смоліч быў сасланы на 5 год за межы Беларусі. Пакаранне адбываў спачатку ў г. Оса Пермскай вобласці, затым у г. Ішым Омскай вобласці. Працаваў бухгалтарам, планавіком, выкладаў геаграфію ў педагагічным і жывёлагадоўчым тэхнікумах.***
***У лістападзе 1936 г. звярнуўся ў Наркамасветы БССР з просьбай даслаць копіі дакументаў, якія пацвярджаюць прызначэнне яго прафесарам Белдзяржуніверсітэта. Дакументы атрымаў, і рашэннем Камітэта па справах вышэйшай школы пры СНК СССР быў узноўлены ў гэтым званні.***

***Аб паўторным атрыманні "Контррэвалюцыянерам-нацдэмам" прафесарскага звання стала вядома кіраўнікам універсітэта, якія адразу ж паведамілі аб такім "ганебным факце" ў партыйны камітэт, а яго сакратар — у Кагановіцкі райком партыі г. Мінска.***

***Прапаную ўвазе чытачоў дакументы аб разглядзе справы і выніках гэтай "палітычнай разборкі". Дакументы друкуюцца ўпершыню.***

# У МАСКВЕ — АДНАВІЛІ, У МІНСКУ — ЗАБІЛІ ТРЫВОГУ...

## ЯК АРКАДЗЮ СМОЛІЧУ "ВЯРТАЛІ" ЗВАННЕ ПРАФЕСАРА

Сакратару ЦК КП/б/Б
тав. Валковічу
Сакратару Мінгаркама КП/б/Б
тав. Рыскіну

Дакладная запіска

У апошні час райкамам выяўлены факт, калі высланы контррэвалюцыянер нацдэм Смоліч, знаходзячыся ў ссылцы, звязаўся з работнікамі апарату Наркамасветы і, выкарыстоўваючы гэты апарат, атрымаў загад Баліцкага ад 1927 года. І на падставе гэтага загада паставіў пытанне перад Камітэтам вышэйшай школы ў Маскве аб атрыманні прафесарскага звання. Гэтае пытанне было прадметам спецыяльнага абмеркавання на апошняй нарадзе пры Камітэце па вышэйшай школе.

Як намі ўстаноўлена ў выніку праверкі, справа адбывалася наступным чынам: высланы нацдэм Смоліч з горада Ішым, Омскай вобл., напісаў заяву ў Наркамасветы, у якой прасіў выслаць патрэбныя яму дакументы на кватэрны яго адрас. Атрымаўшы гэтую заяву, начальнік Упраўлення па вышэйшай школе Наркамасветы наклаў рэзалюцыю наступнага зместу: "тав. Ярмоленка, прашу даць распараджэнне адшукаць загад, копію выслаць па ўказаным адрасе. Альховік". Акрамя таго, Альховік тэлефанаваў тэхсакратару універсітэта і прапанаваў яму выслаць дакументы. На падставе чаго тэхсакратар без усялякага паведамлення рэктара універсітэта выслаў копію загада па Наркамасвеце за 1927 год за подпісам Баліцкага.

На падставе гэтага гэты контррэвалюцыянер, які не мае ніякіх навуковых прац, акрамя контррэвалюцыйных спраў, атрымаў званне прафесара праз Камітэт па вышэйшай школе.

Днямі гэтае пытанне спецыяльна разглядаецца на бюро райкама. Аб прынятых рашэннях паведамім дадаткова.

Пры гэтым прыкладаюцца копіі ўсіх гэтых матэрыялаў.

Сакратар Кагановіцкага гаррайкама КП/б/Б

(Варончанка)

7.11.1937 г.

У Народны камісарыят асветы
Беларускай ССР
ад былога прафесара Беларускага
дзяржаўнага універсітэта Смоліча
Аркадзя Антонавіча

Заява

Прашу выслаць мне копію загада Наркамасветы БССР ад 1-га студзеня 1927 года аб зацвярджэнні мяне па пастанове савета Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў званні прафесара універсітэта па кафедры геаграфіі.

Копія гэтая неабходна мне для прадстаўлення ў Вышэйшую атэстацыйную камісію. Выслаць яе прашу мне па адрасе: г. Ішым, Омскай вобл., Кіселёўская вул., д. N 33, А. А. Смолічу.

Прыкладаю дзяржпошліну 1 руб. і паштовыя маркі на перапіску.

7 кастрычніка 1936 г. А. Смоліч

Правільна: подпіс.

На гэтай заяве ёсць наступная рэзалюцыя тав. Альховіка: "Тав. Ярмоленка, прашу даць распараджэнне адшукаць загад, копію выслаць па ўказаным адрасе. Альховік".

Выпіска з пастановы Народнага камісарыята асветы БССР ад 26/II-27 г.

Аб прызначэнні навуковых работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта

Народны камісарыят асветы БССР пастанаўляе:

Прызначыць ніжэйпералічаных асоб на наступныя пасады па Беларускім Дзяржаўным Універсітэце

II. Па Педагагічным факультэце:

I. Смоліча Аркадзя — прафесара па кафедры геаграфіі Беларусі з 1-га студзеня 1927 г.

Народны Камісар асветы (Баліцкі)
Заг. Агульнага аддзела (Савіч)
З сапраўдным правільна: подпіс

Рэктару БДУ

З прычыны выдачы выпіскі з пратакола Смоліча магу даць наступнае тлумачэнне:

Да мяне паступіла заява Смоліча з

# ДЫЯЛОГІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Прозвішча такое?

— З-за Масквы аднекуль. Гарадок там нейкі. А тут ён прадаваў ніткі ўсякія, заблыць... Для вышыўкі. Ехаў шашою, узяўся дзяўчыну падвезці... Настаўніца. Маладзенькая, з месяц які парабіла ў школе. У суседнім раёне... І во — такая смертанька: прывёз на "марсадэсі", каб закапаць. Ссільнічыў, задушыў... Паздзекаваўся, гад, думаў, усё шыта-крыта будзе. Аж і самому прыйшлося дрыгі адкінуць... З вялікага спуду сэрца разарвалася. Во як!

— Даярка, хоць і зладзейка, ды не збаялася, што прыйдзецца ўсё расказаць...

— Куды ж ёй было дзецца?.. Стораж залавіў з гэтым цяляткам, учыніў допыт. Ён жа і міліцыю выклікаў... Некаторыя даяркі падменьвалі бычкоў сваіх на цёлачак. А гэтая ўкрала бычка, яўна хацела падкарміць троху дай зарэзаць... Яна выкруцілася: сказала, што ўзяла цялятка, каб патрымаць дома, пакуль не акрэпне. Паверылі.

— Ды, можа, усё й было так?

— Зладзейка яна... Ёй украсці, што зманіць.

### ПРЫРОДДЗЕ ПАНСКАЕ...

— Падворак пана Рамідоўскага быў, дзе во клёны растуць, адкуль сад зачынаецца. А цагельня сама — на беразе Сожа, на пагорачку. Ты ж ведаеш тое месца.

— Вось, там я і ўзяў трох шчупакоў на спінінг... Якраз супроць пячышча.

— У-у, печ вялікая была, кахлю ў ёй абпальвалі, цэглу. Гэтым мужчыны займаліся, рабочыя. А бабы — яны хварбу білі, кахлю хварбавалі. Ручай гэты, што паўз сад бяжыць і ў Сож сцякае, тады быў шустрай рэчкаю, вадзяны млын круціў. Дукша яго трымаў. Ён жа і сад старажыў, Дукша. Мы хадзілі ўначы яблыкі трэсці...

— Гэта калі было?

— А я ўжо й не скажу ў якім канкрэтна годзе — не ўпала мне спытаць... Ужо ж і Дукшы няма, а залетась — Чакуха Іван памёр. Ён конюхам у пана быў. Сапляк, а таксама, як і Дукша, ганяў людзей... Сюды ж, у сад гэты, панскі, унукі-праўнукі Рамідоўскага часта на Сёмуху прыязджалі. Ажно з Масквы. На дзвюх машынах. Балююць цалюткі дзень, а то й два. Пасля іх наезду чаго толькі не валялася: агрызкі фруктаў, косці, аб'едкі хлеба... А праз колькі гадоў — як прарвала: папёрлі з Масквы дачнікі-турысты. Палатачны гарадок узвядуць па вясне і ўсё лета жыруюць: рыбу ловяць у Сожы, ягады ў лесе бяруць, грыбы, з лужка шчавель носяць... Мы ўсе прывыклі да іх: якое малако — ім, смятанку і сырок — ім, бульбу толькі прынось — бяруць. А гэта ж — грошы, не трэба ў Прапойск ці той Чэрыкаў перціся, на базары тлуміцца. І во — адвярнула ўсіх ад нашых мясцінаў, спаганіў зямельку Чарнобыль... Не едзе ўжо сюды й прыроддзе панскае...

— Радыяцыя тут высокая, гэта праўда.

— На пачатку меншая была, пакуль воблакаў не чапалі. Ды як сталі ракеты ў неба пуляць — усё забрудзілі, спаганілі. Гэта ж, прыдуркі, Маскву так баранілі ад радыяцыі. Мы ўжо тут, быццам і не людзі, на вымор нас пакінулі... Аднак жа не паміраем, трымаемся. І па-ранейшаму масквічоў сваіх не забываем — патроху падкормліваем і смятанкай-масельцам, і сальцам-каўбаскамі, і грыбочкамі... Розніца ў тым і ёсць, што раней — яны да нас ехалі, а цяпер — мы да іх, сыплем, можна сказаць, прыпасы свае ім проста на стол: ешце, браточкі, ласуйцеся, адно толькі газ не адключайце, не марозьце суседзяў сваіх таравітых...

### ЗБЭЙХАЎ, ЗАТЛУМА, ШАПКУ...

— Цяпер ваўкоў мала... Дзе які аб'явіцца — за ім паляўнічыя цугам бегаюць, навыперадкі. А было ж іх, ваўкоў, тут забагата. Па вёсках табунамі гойсалі. Бальшэнныя, страшныя... А тата мой, у Піліпаўку, вяртаўся з Прапойску, запазніўся. Дайшоў сюды во, як Гракі. Дзе балоцьвінка з журавінамі... Бачыць: ваўчынае вяселле перад ім. Мітусяцца ваўкі, забягаюць адны насустрач, другія ў круг бягуць... Лес вялікі там, не гэткі, як цяпер. У вайну немцы той лес увесь спляжылі — да кусціка вырубілі, каб партызаны

рэзалюцыяй тав. Альховіка аб выдачы яму адпаведнага дакумента, і тав. Альховік тэлефанаваў з гэтай прычыны.

Палічыўшы, што паколькі ад Наркамасветы (т. Альховіка) ёсць дазвол, я адшукала і выслала выпіску пратакола.

Сакратар БДУ — Шабуневіч
7.II.1937 г.
Копія сапраўдная: подпіс

У парткам БДУ

Будучы ў Камітэце па вышэйшай школе ў Маскве сумесна з тав. Лявіцыным па пытаннях вучэбных планаў універсітэтаў, у адной з камісій, дзе старшынстваваў тав. Пінкевіч (заг. аддзела па пед. ВНУ і універсітэтах), прадстаўнік Азербайджана ўзняў пытанне аб тым, як быць з пытаннем аб вучоных ступенях і званнях (прафесар, дацэнт) у адносінах тых асоб, работы якіх забаронены і якія самі выяўлены як варожыя элементы.

У сувязі з гэтым заг. аддзела камітэта пацікавіўся пра аднаго прафесара, які прасіў камітэт аб аднаўленні яго ў гэтым званні і які быў адноўлены на падставе даведкі з БДУ.

Гэтай асобай, па наведзеных намі звестках, аказаўся Смоліч, высланы за межы БССР як нацдэм. Я з тав. Лявіцыным прагледзелі ў камітэце папкі з гэтымі справамі і, сапраўды, аказалася там выпіска з пратакола Наркамасветы БССР аб тым, што Смоліч зацверджаны прафесарам геаграфіі па БДУ. Даведка падпісана толькі супрацоўніцай канцылярыі тав. Шабуневіч.

Пасля вяртання ў Мінск я пацікавіўся, на якой падставе была выдадзена гэтая даведка, бо я асабіста такога распараджэння т. Шабуневіч не даваў. Аказваецца, на заяве Смоліча ёсць рэзалюцыя тав. Альховіка аб выдачы даведкі, і тав. Шабуневіч, не спытаўшы адказных работнікаў рэктарата (т. Лоцманава і мяне), выслала даведку камітэту ў Маскву.

7.II.1937 г. Ярмоленка

Пытанне аб высылцы копій дакументаў Смолічу бюро Кагановіцкага райкама партыі разгледзела на другі дзень пасля дакладной запіскі сакратара РК у ЦК КП/б/Б і Мінскі гарком. Была прынята наступная пастанова, якую накіравалі ў ЦК:

Пратакол N 90
пасяджэння бюро Кагановіцкага
райкама КП/б/Б
8-га лютага 1937 г.
г. Мінск

Слухалі: 2. Аб факце высылкі дакументаў работнікамі БДУ і Наркамасветы высланаму нацдэму Смолічу для ўстанаўлення яго ў званні прафесара (Інф. т. Варончанка)

Пастанавілі: 1. Заслухаўшы паведамленні сакратара парткама БДУ Грабштэйна і сакратара парткама Наркамасветы Пармона і асабістыя тлумачэнні начальніка Упраўлення вышэйшай школы Альховіка, намесніка рэктара БДУ Лоцманава, бюро РК лічыць устаноўленым, што контррэвалюцыянер-нацдэм Смоліч, які атрымаў за свае контррэвалюцыйныя справы ад былога наркама асветы Баліцкага званне прафесара, выкарыстаўшы свае сувязі цяпер з асобнымі работнікамі Наркамасветы, падманным шляхам атрымаў копію загада Баліцкага аб прысваенні яму звання прафеса-ра, завераную тэхнічным сакратаром універсітэта. І на падставе гэтай даведкі, атрыманай падманным шляхам, не маючы ніякіх навуковых прац, дамогся звання прафесара праз Камітэт па вышэйшай школе пры СНК Саюза ССР.

2. Бюро РК лічыць, што галоўным арганізатарам у атрыманні даведак контррэвалюцыянерам-нацдэмам Смолічам з'яўляецца начальнік Упраўлення вышэйшай школы Альховіч, які, атрымаўшы пісьмо ад контррэвалюцыянера-нацдэма Смоліча, адразу ж наклаў рэзалюцыю з прапановай рэктару БДУ адразу ж выслаць патрабуемую даведку, неаднаразова званіў тэхсакратару універсітэта і правяраў, ці выканана яго распараджэнне.

3. Адзначыць, што асобныя работнікі Наркамасветы (Лявіцкі, Паромчык), ведаючы пра ўсю перапіску контррэвалюцыянера Смоліча, не толькі не ўскрылі гэтых фактаў, а фактычна сваімі паводзінамі далі магчымасць выдаць неабходныя дакументы контррэвалюцыянеру-нацдэму Смолічу.

4. Бюро РК адзначае, што факт пасылкі даведак контррэвалюцыянеру-нацдэму Смолічу тэхнічным сакратаром БДУ сведчыць аб наяўнасці выключнага разгільдзяйства, абыякавасці сярод работнікаў універсітэта і сведчыць аб перадаверы шэрагу важнейшых пытанняў работы універсітэта тэхнічным работнікам.

Зыходзячы з гэтага, бюро РК пастанаўляе:

1) Даручыць партарганізацыі Наркамасветы абмеркаваць гэтае пытанне на закрытым партыйным сходзе, зрабіўшы з гэтага факта ўсе неабходныя высновы для работы сваёй партарганізацыі.

2) Даручыць парткаму Наркамасветы вырашыць пытанне аб партыйнасці Альховіка і прыцягнуць да партадказнасці Паромчыка.

3) Даручыць т. Дзьякаву разгледзець пытанне аб магчымасці пакінуць у апараце Наркамасветы Лявіцкага.

4) Прыняць да ведама заяву тав. Гершана, што Альховік ужо звольнены з пасады начальніка Упраўлення вышэйшай школы Наркамасветы.

5) Прыняць да ведама заяву т. Лоцманава, што тав. Шабуневіч знята з працы тэх. сакратара Белдзяржуніверсітэта.

6) Даручыць т. Дзьякаву і Лоцманаву адразу ж напісаць дакладную запіску Камітэту па справах вышэйшай школы пры СНК СССР з дадаткам усіх матэрыялаў, якія выкрываюць контррэвалюцыянера-нацдэма Смоліча, што падманным шляхам атрымаў званне прафесара.

Сакратар Кагановіцкага гаррайкама КП/б/Б (Варончанка)

Да "справы аб выдачы дакументаў Смолічу" ў Кагановіцкім райкаме партыі зноў звярнуліся 16 лютага 1937 г. у сувязі з разглядам рашэння, прынятага партарганізацыяй Наркамасветы. Высветлілася, што дакументы пасылаліся не толькі Смолічу, а і Адамовічу (ініцыялы не названы), таксама асуджанаму і высланаму за межы рэспублікі. Хутчэй ха ўсё маецца на ўвазе пісьменнік Антон Адамовіч, які, як і Смоліч, быў арыштаваны па тых жа матывах у 1930 г. і асуджаны ў 1931 г. Ссылку адбываў у г. Вятка (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Рашэнне бюро датычыцца намесніка начальніка Кіраўніцтва вышэйшай школай Наркамасветы Г. С. Альховіка.

Пратакол N 91 пасяджэння бюро
Кагановіцкага райкама КП/б/Б
16 лютага 1937 г.
г. Менск

14. Слухалі: Справу Альховіка Гаўрыіла Сцяпанавіча, член КП/б/Б з 1926 г., п/б N 0871643, партарганізацыя Наркамасветы, па сац. паходжанні з сялян, па сац. становішчы служачы, у Чырвонай Арміі служыў, працуе нам. нач. Кіраўніцтва вышэйшай школы Наркамасветы.

Устаноўлена:

1. У пачатку лістапада месяца 1936 г. Альховік, выконваючы абавязкі начальніка кіраўніцтва вышэйшай школы, атрымаў заяву ад высланага контррэвалюцыянера-нацдэма Смоліча аб прысылцы яму копій загада аб прысваенні звання прафесара, даў распараджэнне прафесару БДУ Ярмоленка адшукаць копію загада і выслаць па ўказанаму Смолічам адрасе, прычым Альховік неаднаразова званіў сакратару БДУ Шабуневіч з патрабаваннем аб неадкладнай высылцы копіі загада, і загад, выдадзены Баліцкім Смолічу, быў высланы.

2. У снежні м-цы 1936 г. Альховік не толькі не ўскрыў усёй праступнай дзейнасці Ваньковіча і другіх па арганізацыі выдачы спраўкі высланаму нацдэму Адамовічу, а наадварот, сваімі саветамі аказаў прамое садзейнічанне гэтаму нацдэму дабіцца атрымання неабходных яму дакументаў, прычым, усе факты Альховік упарта скрываў ад партарганізацыі.

3. Альховік не толькі не прымаў ніякіх мер па ачыстцы педвузаў ад контррэвалюцыйных і класава-варожых элементаў, а наадварот, выстанаўліваў у правах студэнтаў, выгнаных з педвузаў (восстанаўленне студэнтаў БДУ трацкіста Зельдзіна, дачкі расстрэлянага ў 1932 г. Касінсага і інш.).

4. Альховік, працуючы дырэктарам Менскага індустрыяльнага педагагічнага тэхнікума, дапусціў такое становішча, калі для ізгатаўлення яшчыкаў былі выкарыстаны плакаты з партрэтамі правадыроў, за што меў суровае спагнанне ад гаркама КП/б/Б.

5. Будучы дырэктарам будаўнічага ін-та, дапусціў развал работы ін-та, за што пры чыстцы ў 1933 г. выключаўся з партыі, падтрымліваў цесную сувязь з контррэвалюцыйнымі нацдэмаўскімі элементамі.

6. Рашэннем партарганізацыі Наркам асветы 11/II-37 г. Альховік з шэрагаў партыі выключан.

Інфарм. т. Пармон,
прысут. Альховік

Пастанавілі: За прамое пасобніцтва ворагам партыі контррэвалюцыянерам Смолічу і Адамовічу, выразіўшаяся ў выдачы дакументаў гэтым злейшым ворагам народа за згубу бальшавіцкай пільнасці, засмечанасць педагагічных навучальных устаноў трацкістамі і класава-варожымі элементамі Альховіка Гаўрыіла Сцяпанавіча, члена партыі з 1926 г., п/б N 0871643, з шэрагаў партыі — выключыць.

Сакратар Кагановіцкага гаррайкама КП/б/Б (Варончанка)

У "Матэрыялах да справаздачы ЦК КП(б) Беларусі XVI з'езду КП/б/Б (чэрвень 1937 г.) адзначаецца, што ў апараце Наркамасветы заставаліся доўгі час "варожыя людзі", на шэраг важнейшых участкаў "пасаджаны былі злейшыя ворагі народа". Сярод "варожых людзей" называецца Альховік, а да ліку "злейшых ворагаў", побач з іншымі, прылічаны нарком Дзьякаў. Таму ЦК правёў шэраг мер па ўмацаванні кіраўніцтва Наркамасветы кадрамі. Новым наркомам стаў першы сакратар Кагановіцкага райкома Варончанка.

Сёння мы не ведаем, ці паспеў Камітэт па справах вышэйшай школы пры СНК СССР адмяніць сваё рашэнне аб аднаўленні Смоліча ў званні прафесара. 17 чэрвеня 1937 г. Аркадзь Антонавіч быў зноў арыштаваны і 10 чэрвеня 1938 г. пастановай тройкі УНКУС па Омскай вобласці прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17 чэрвеня 1938 г. у Омску Рэабілітаваны па першым прыгаворы ў чэрвені 1988 г. Вярхоўным судом БССР, па другім — у лютым 1957 г. Цюменскім абласным судом.

**Р. ПЛАТОНАЎ,**
**галоўны навуковы супрацоўнік БелНДЦ дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы.**

---

блізка не падыходзілі да шашы.

— Сапраўды, там зручнае месца для абстрэлу... Было куды ўцякаць: жару немцам дадуць — і ў гушчар, лаві іх.

— А ў таты іншага паратунку не было, і ён увоміг на сасну ўскочыў — як хто падняў яго. Шапка звалілася, дык ваўкі парвалі так, што й абрыўка нідзе не знайшоў. Марозька слабы, і тата не скалеў, трымаўся... Ваўкі гойсаюць вакол, дзяруць снег, грызуць сасонку. Стапталі ўсю дзялянку... Нарэшце хтосьці выйшаў з хаты ў Граках і два разы стрэліў. Ваўчыца адскочыла ўбок, пакружылася, як у танцы, і пабегла ў чмурэчу. Ваўкі памчаліся па чарзе на сасонку — і за ёй следам. Зніклі. Ціха стала. А ўжо й віднець пачало... Тата злез — і ў Гракі. Там ён за парабка ў аднаго падпанка быў, абагрэўся ў яго... Двору вярнуўся чорны-чорны. Мама — у крык: "Што, напіўся і шапку збэйхаў, затлума?!." — Давай яго лаяць. Я з Насцяй, старэйшай сястрою, плачам — шкада тату. Мы — верым яму, а мама — не, зругваецца...

— І ён цярпеў?

— Моўчкі выпіў чарачку наліўкі, пабраўся на печ — і на чарэнь, заснуў, дык не прачынаўся двое сутак.

## ІГОЛКА

— Вязу пасажыра... Даставіў, куды ён загадаў. Бачу, не збіраецца плаціць — тузае дзверы, ломіць. Не можа адчыніць. Нарэшце: "Грошай у мяне няма." Малады дзяцюк, у добрым касцюме, прычоска модная. Карацей — дагледжаны, адкормлены. Не з бедных.

— Дзверы ў машыне з сакрэтам?

— Не без гэтага... Ён бяснуецца ўжо, зайчык мой. Я прыпужнуў: "Адвязу ў міліцыю, — развярнуўся і еду. — Ад мяне, — кажу, — уцячы немагчыма, на хаду не выскачыш". І ён раптам, піньцюх гэты, рэзка павярнуўся ў мой бок і махнуў рукой — лёгка так, як пазногцем, торкнуў мне ў грудзі. Болю я не пачуў, адно ў вачах на якую хвіліну пацямнела...

— Даставілі яго ў міліцыю?

— А як жа!.. Здавалася б, і забыта ўсё. Ды не — праз дзень, бачу, апухла грудзіна мая, пачырванела. Я — да хірурга, і той знайшоў глыбока ў целе іголку...

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

— Я ў Ратамцы рабіла на торфазаводзе. Жыла ў адным пакоі з дзеўкамі з Магілёўшчыны... Ратамка тады малая была.

— Што вы там рабілі?

— Святло ганяла... Падвозіла да качагаркі торф, вугаль. Роўна ў дванаццаць ночы глушыла паравік... Прыйшла, помню, па сваю першую зарплату, касірка й пытае: "Позвішча тваё?" А я ад радасці смяюся й кажу: "Шукайце — Галка". Яна вочы паставіла ракам, глядзіць. А я ўсё смяюся... "Што мне шукаць?!. —крычыць. — Назаві прозвішча сваё!" Я зноў: "Не разумееш?.. Галка!" Яна — бах аканеца перада мной, зачыніла... І доўга адна адну не разумелі. Аж во што: яе звалі Галкай... Галінай. А маё прозвішча дзявочае — Галка. Калі расшалопілі — смеху было па самыя матузкі. Пасля мы й пасябравалі, у кіно разам хадзілі, на танцулькі.

— Як вам плацілі?

— Не помню ўжо суму, што мне давалі, але там было куды лепей, чым цяпер тут, у гэтым хвалёным калгасе...

## ЛІШАПОНЦЫ

— Лішы гэтыя... Пасяліліся ў нашай вёсцы. Сям'я...

— Наезджыя людзі?

— Набрыды са свету. Лішапонцы. Свякрова мая з гэтай сям'і мужа сабе ўзяла... Бацькі яе рана памерлі, засталася сіратой. Але зямля ў яе была свая, і яна лічылася багатай дзеўкай. Яе высваталі, перайшла жыць да гэтых лішапонцаў. А ў іх мода такая: калі снедаюць, дык бульбу з чыгуна вывальваюць на абрус ці проста на сталешніцу. Бульба — гарой, бяруць яе рукамі і ядуць у прыкуску з гурком, мясамсалам, а то й з груздамі... Свякрова дастала з печы чыгун, але не сцадзіла. А тут свёкар зайшоў і сеў за стол. Нявестка й рада старацца — за чыгун, прынесла і шухнула бульбу на абрус. І цод — кіпень-кіпнем! — апарыў свёкру каленкі і ўсё, што вышэй, пад сеслам...

— Во падладзіла!

— Свёкар закаціў вочы, падхапіўся — і ў двор, бегае й лямантуе: "Ой, ой!.. Каго мы прыгрэлі!.. Яна ж мяне, восва гэтая, нязгрэба, ухайдокае..."

## ЗАБІТАЯ ПТУШКА

— Ці не Івана Гарошкі дзеўка?.. Яго хутар адразу за гэтым узболаткам?

— Так. А што?

— Ты коней шукаеш. Іх двое.

— Шукаю... Кабылу і жарабятка.

— Непадалёк ад Тарасавага котлішча твае коні... Прайдзі троху — убачыш.

— Дзякуй.

— Чуў, бацька твой фермерам стаў. І як вам жывецца на хутары?

— Добра... Але далёка ў школу хадзіць.

— У якім класе ўжо?

— Сёмы заканчваю... А вы хто, дзядзька?

— Твайго бацькі аднакласнік. Ён ведае... Звольніўся з расейскага войска, прыехаў і цяпер вось хаджу і выбіраю мясцінку, дзе б і сабе хутарок заснаваць... Хачу таксама ў фермеры.

— А чаму са стрэльбай?

— Вясновае паляванне з учарашняга дня дазволена... Я — паляўнічы, да стрэльбы ўсе дакументы пры мне. Пытанні ёсць?

— Дык вы ці не птушак шукаеце?

— Цецерука... Стрэліў, ён адляцеў і ўпаў... І ўжо з гадзіну тапчуся тут. Дзе ж мой трафей?

— Прайдзіце з крокаў дзвесце па маім следзе — птушка вашая ў ямінцы ляжыць. Прыгожая, бровы чырвоненькія... Навошта было яе забіваць?

— Усё, не буду... Каюся.

— Ой, дзядзька, не веру я вам! Усё роўна бацька аштрафуе... Браканьер!.. У нас тут заказнік, паляванне забаронена круглы год.

— Хм, дык бацька твой — і за егера?

— А што, спужаліся? Вунь ён — гляньце! — ідзе, мой бацька.

— На стрэл бяжыць... Аштрафуе! Ён усё той жа, зух, не змяніўся.

— Які гэта — той жа?

— Прынцыповы...

— І справядлівы — адыме ў вас дубальтоўку і здасць у міліцыю...

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае шчырае спачуванне галоўнаму захавальніку фондаў музея ЧАБАТАРЭВІЧ Марыі Кандратаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці маці.**

***Прыйшла ўрэшце пара абудзіць найвялікшую творчую спадчыну некалі славутага творцы — пісьменніка, мастака, музыкі, акцёра, рэжысёра, драматурга Уладзіслава Галубка. Калегія Міністэрства культуры і друку, упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама, Баранавіцкія гарадскі і раённы выканаўчыя камітэты вырашылі правесці Усебеларускі фестываль аматарскіх тэатраў пад назвай "Гасціны ў Галубка" 8—10 снежня 1995 года ў горадзе Баранавічы і ў Баранавіцкім раёне.***

***Фестываль ставіць сваёй мэтай развіццё і прапаганду аматарскага тэатральнага мастацтва, спасціжэнне творчай спадчыны і ўшанаванне памяці аднаго з заснавальнікаў беларускага тэатра — першага народнага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіслава Галубка.***




# ЗЛЯЦЯЦЦА ГАЛУБЯНЯТЫ НА РАДЗІМУ ГАЛУБКА

Падчас фестывалю Баранавічы стануць тэатральным горадам, у які прыедуць не толькі лепшыя аматарскія тэатры Беларусі, але і госці з замежжа — па адным тэатры з Польшчы, Расіі, Украіны і Францыі. Пачэсны ўдзел у адкрыцці фестывалю прымуць і артысты нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы. Гледачы сустрэнуцца з неаднароднай драматургіяй, з рознымі тэатральнымі школамі. На фестываль будуць запрошаны людзі, якія добра ведалі па творчых і жыццёвых пуцявінах Уладзіслава Іосіфавіча.

Фестываль будзе насычаны тэатральнасцю, пранізаны ёй не толькі на сцэне, але і на вуліцах горада. У жыхароў Баранавіч і яго гасцей будзе магчымасць дакрануцца да творчай спадчыны Галубка ва ўсіх яе праявах, сустрэцца не толькі з тэатразнаўцамі, драматургамі, рэжысёрамі, артыстамі, але і мастакамі, музыкамі, народнымі майстрамі, паэтамі.

У першы дзень фестывалю 8-га снежня акцёры некалькіх тэатраў у абедзенны перапынак сустрэнуцца з рабочымі прадпрыемстваў горада, выступяць перад імі. Затым, пасля прыезду астатніх тэатраў, па галоўнай вуліцы горада пройдзе тэатралізаванае шэсце. Перад уваходам у гарадскі Палац культуры ўдзельнікаў фестывалю, гасцей, гледачоў будуць вітаць галубкоўскія героі. У фае Палаца культуры прысутныя пазнаёмяцца з выставамі: народных майстроў, мастакоў, музейнымі экспанатамі з творчай спадчыны Галубка. На сцэнічнай пляцоўцы палаца адбудзецца афіцыйнае адкрыццё фестывалю, пасля якога пачнецца конкурсны паказ спектакляў некалькіх тэатраў. У склад журы фестывалю ўвойдуць вядомыя тэатразнаўцы, драматургі, рэжысёры, акцёры. Познім вечарам пройдзе вечарына-сустрэча пад назвай "Тэатральныя вячоркі" ўсіх удзельнікаў фестывалю.

На другі дзень фестывалю 9-га снежня зранку адбудзецца прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства культуры, журы, гарадскіх і раённых улад, прэсы, тэлебачання. Затым афіцыйная дэлегацыя ў вышэйназваным складзе з рэжысёрамі тэатраў наведае радзіму Галубка, станцыю Лясная, дзе ля мемарыяльнага каменя адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная ўшанаванню творцы. У Ляснянскай школе пройдзе "Галубкоў урок", які правядуць ва ўсіх класах прадстаўнікі журы. Пасля ўшанавання "калыскі" Галубка, фестываль прадоўжыцца адкрыццём дзіцячай тэатральнай пляцоўкі ў Баранавіцкім Палацы школьнікаў, дзе пакажуць свае спектаклі некалькі дзіцячых тэатраў. У Палацы ж культуры будзе прадаўжацца конкурсны паказ спектакляў. Увечары амаль усе тэатры раз'едуцца па калгасных сцэнічных пляцоўках і пакажуць свае спектаклі вясковаму гледачу. А на дзвюх гарадскіх пляцоўках пройдуць вячэрнія спектаклі лепшых тэатраў фестывалю.

У трэці дзень фестывалю 10 снежня прадоўжыцца паказ спектакляў, пасля яго заканчэння журы падвядзе вынікі конкурсу. Тут жа будзе працаваць творчая лабараторыя рэжысёраў. Адбудзецца ўзнагароджанне лаўрэатаў і дыпламантаў і ўрачыстае закрыццё фестывалю. І пад вячэрні час разляцяцца галубяняты з радзімы Галубка...

Працуючы над сцэнарыем фестывалю, мне прыйшлося пераглядваць не толькі творы Галубка, але і ўсё напісанае пра яго. Пашчасціла знайсці малавядомыя звесткі пра яго творчы шлях і жыццёвы лёс. У апошнія гады жыцця творчасць Галубка была звязана з Гомелем. Тут сустрэў я чалавека, які быў у блізкіх творчых адносінах з Галубком. Міхаіл Мікалаевіч Сімкоўскі працаваў мастаком-дэкаратарам аматарскага тэатра Палаца культуры чыгуначнікаў, а ў пасляваенны час — дырэктарам гэтага палаца.

Міхаіл Мікалаевіч добра ведаў Уладзіслава Галубка. Іх аб'ядноўваў агульны інтарэс — жывапіс. "Мы разам з Уладзіславам Іосіфавічам хадзілі на эцюды на наша ўлюбёнае месца за горад на ўлонне прыроды, — прыгадвае Міхаіл Мікалаевіч, — ён клікаў мяне папростаму Міхась. Я са святой павагай ставіўся да Уладзіслава Іосіфавіча, бо бачыў у ім свайго настаўніка і старэйшага дарадцу. Я часта раіўся з ім, паказваючы свае эскізы да спектакляў, ён жа з чалавечай цеплынёй даваў парады, раіў, як зрабіць лепш. Уладзіслаў Іосіфавіч быў цікавы і як жывапісец. Ён меў сваю творчую адметнасць: клаў на палатно цэлыя згусткі фарбы, але здалёк карціна "чыталася", таму я адыходзіў і падоўгу любаваўся яго творамі. Дапамагаў я і арганізоўваць яго выставу ў тэатральным памяшканні. Неаднаразова бываў і на спектаклях, у якіх граў Уладзіслаў Іосіфавіч. Заўсёды быў ветлівы, вясёлы, шмат жартаваў".

І вось аднойчы Сімкоўскі, зайшоўшы ў тэатр да Галубка, каб ісці разам на эцюды да Сожа, яго там не застаў. Дайшлі чуткі, што Галубка арыштавалі, хтосьці ўгледзеў у ім "ворага народа", "шпіёна". Забралі і ўсе карціны Галубка, якіх было больш за семдзесят, розных памераў. Іх меркавалася спаліць у двары НКВД. Паспрыяла таму, што не ўсе былі спалены, тое, што з некаторымі супрацоўнікамі НКВД М. Сімкоўскі гуляў у футбол: яны саступілі на яго просьбы не знішчаць карціны, але прымусілі пры іх пэндзлем зафарбоўваць прозвішча Галубка, якое значылася ўнізе на карцінах. Аддалі, але з умовай, што Сімкоўскі на іх будзе пісаць свае пейзажы.

Карціны Міхаіл Мікалаевіч размясціў у Палацы культуры чыгуначнікаў на трэцім паверсе па ўсіх пакоях. І тут — вайна, усе каштоўнасці з палаца, у тым ліку і карціны, былі эвакуіраваны ў Пензу. І толькі прыйшоўшы з фронту, Сімкоўскі паехаў у Пензу шукаць мастакоўскую спадчыну Галубка. Некалькі карцін удалося знайсці, астатнія страчаны недзе ў Пензе.

Менавіта дзякуючы М. Сімкоўскаму да нас дайшлі тры карціны У. Галубка. Зараз яны знаходзяцца ў Гомелі, у інтэрнаце чыгуначнага тэхнікума, дзе мяркуецца размясціць музей, пакуль рамантуецца Палац культуры чыгуначнікаў. Лёс іх незайздросны, бо знаходзяцца яны ў падвале, сярод запыленага непатрэбнага хламу. Разумна і мэтазгодна было б перадаць іх у Мінск, у музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, дзе іх маглі б убачыць шматлікія наведвальнікі.

Не засталася без маёй увагі і былая артыстка галубкоўскага тэатра Надзея Нічыпараўна Нарчук, якая цяпер жыве ў Баранавічах. Дарэчы, як высветлілася ў размове з Надзеяй Нічыпараўнай, яе дочкі пайшлі па слядах маці: адна з іх вядомая тэатразнаўца Тамара Гаробчанка, другая — супрацоўніца часопіса "Тэатральная Беларусь" Ларыса Квяткоўская.

Надзея Нічыпараўна Нарчук — жанчына складанага творчага і жыццёвага лёсу. Рана аўдавела, засталася з малымі дзецьмі, бо муж, таксама акцёр галубкоўскага тэатра Яўген Гаробчанка, быў рэпрэсіраваны і загінуў у ссылцы.

З Уладзіславам Галубком Надзея Нічыпараўна пазнаёмілася ў Гомелі, калі трапіла ў студыю пры тэатры БДТ-3. Артыстычны лёс не быў да яе літасцівы, не адразу "пасыпаліся" значныя ролі. Трэба было прайсці пэўную тэатральную школу ў выдатнага рэжысёра Канстанціна Саннікава, у вопытных старэйшых артыстаў. І з часам усё часцей можна было бачыць на сцэне Надзею ў розных ролях. Грала яна нават у спектаклі па п'есе Галубка "Рыкашэт", дзе сам Уладзіслаў Іосіфавіч выконваў галоўную ролю.

Безумоўна, гэтыя людзі таксама будуць запрошаны на фестываль і будзе ім аддадзена належная ўвага і пашанота...

Галубок верыў, што яго самаахвярная праца не марная. Так яно і сталася. Зерне, кінутае руплівай рукой на тэатральную ніву нашым славутым папярэднікам, прарасло па ўсёй Беларусі. Галубкоўскія галубяняты выраслі ў галубоў, нарадзілі і аперылі сваіх галубянят, якія зляцяцца з усіх куткоў тэатральнай Беларусі на радзіму свайго "прадзеда". І думаецца, што іх снежаньскі прылёт будзе памятлівым для ўсіх, бо яны абудзяць паўзабытую творчую спадчыну Уладзіслава Галубка, паспрыяюць у далейшым больш плённай дзейнасці аматарскіх тэатраў. Так, у гэтым годзе эстафета ад папярэдняга фестывалю з горада Мазыра пяройдзе ў горад Баранавічы, і надалей пажадана, каб фестывальная традыцыя аматарскага сцэнічнага мастацтва ўкаранілася і з году ў год крочыла па гарадах Беларусі.

**Мікола МАКАРЦОЎ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Уяўляеце, першы на вёсцы, тады ў раёне, тады ў вобласці, рэспубліцы, можа, у канфедэрацыі, нават у садружнасці дзяржаў! Божачка, што толькі не прымроіцца, галава кругам ідзе. Хіба што мовы адной не хопіць і прозвішча давядзецца падправіць, каб заканчвалася на "ін" — як Ленін, Сталін і г.д. З імем вось ужо ўсё ў парадку — Марцін...

•

Раней было без розніцы — што клініка, што бальніца, што лазарэт, што шпіталь. А цяпер, калі лекаў не даюць амаль і для хворых нічога не робіцца, як мы кажам, на жаль: не "лячэбніца", а "хваробніца".

•

З амерыканскага гумару: кіраўнік — гэта чалавек, як і ўсе іншыя, які гэтага не разумее.

•

— Глядзіце, голая кабета, — войкнула ля тэлевізара цётка, — Табе ўсё шмоткі ды шмоткі, — накінулася пляменніца на цётку, — голая гэта неадзетая, а на ёй, бачыш, калготкі.

•

"Чапаеў загінуў, бо заснулі вартавыя", — любіў нагадваць падначаленым Іосіф Вісарыёнавіч. Пазабываліся на запавет вялікага правадыра наступнікі. Хрушчоў быў скінуты, калі забараніў сачыць за членамі ЦК. Брэжнеў праспаў увесь застой. Гарбачоў праваронiў і ГКЧП, і Белавежу. Новыя лідэры не могуць сабе гэтакага дазволіць. У вас падазрона гудзе тэлефон? Можа, і вы квапіцеся на ўладу? Дык ведайце: вартавым загадана падвоіць дбанне.

•

"Ну што трэба было гэтым дэмакратам, — уздыхае цётка Агата, — жылі ж пры камуністах, як у раі"... Я б за адно тое ўяўленне цёткі Агаты аб раі не пускаў камуністаў у рай.

•

Паводле Юліяна Тувіма. Не магу глядзець, як нехта грабе і ўсё пад сябе мкне. Эгаіст гэта той, хто клапоціцца аб сабе больш, чым аба мне.

•

Тэлевізар не ўключаю — шмат энергіі бярэ. Замяніў лямпачкі на 15-ватныя — эканомней. Не выпісваю газет — падаражэлі. Не гавару па тэлефоне — бяруць і за мінуту размовы. Перайшоў на сырую ежу — плаціць будзем за колькасць ужытага газу. Ладзяць лічыльнікі гарачай вады — мыцца давядзецца як мага радзей. Агу, людзі?

•

Тысяча рублёў цяперашніх — гэта як адзін рубель калісь? Тады падлічыце, колькі рублёў можна будзе атрымаць за адзін сённяшні праз год.

•

Скідае сінтэтыку "гома саветыкус", апранаецца ў скуранае, зробленае ў Турцыі. А каму насіць наша, пашытае ў "Беларашн"? Кажуць, у Аўстраліі туземцы непатрабавальныя, ды колькі той ласкі з набедранай павязкі?.. Алё, рэгіёны, не трэба сінтэтыкі беларускіх фасонаў?

ЛІМ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 30.11.1995 г.
Заказ 6084/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12